ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 1 (2527)
ПЯТНІЦА
1
студзеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# З НОВЫМ ГОДАМ!




Мал. Г. ДАВІДОВІЧА.

# НАВАГОДНЯЕ ВІНШАВАННЕ САВЕЦКАМУ НАРОДУ

## ВЫСТУПЛЕННЕ ТАВАРЫША Л. І. БРЭЖНЕВА ПА ТЭЛЕБАЧАННІ І РАДЫЁ



Дарагія суайчыннікі!

Дарагія таварышы, сябры!

Ідуць апошнія мінуты 1970 года. Савецкі народ праводзіць яго з усведамленнем выкананага абавязку, з добрым настроем. Гэта быў незабыўны год вялікага ленінскага юбілею, завяршаючы год восьмай пяцігодкі, год самаадданай працы і стварэння, новых перамог і здзяйсненняў.

Усюды на савецкай зямлі — ад Балтыкі да Ціхага акіяна, ад паўночных мораў да Каўказскіх гор — адыходзячы год пакінуў добры след. Уступілі ў строй сотні прадпрыемстваў, пракладзены новыя магістралі, ўзняліся новыя гарады. Перавыкананы заданні па выпуску прамысловай прадукцыі. Сабран самы высокі ўраджай збожжа і бавоўны за ўсю гісторыю нашай краіны. Выдатных поспехаў дабіліся савецкая навука і тэхніка. Першую каляіну на месяцавай паверхні праклаў савецкі «Луназод-1».

Выдатныя дасягненні дазваляюць з гордасцю сказаць: 1970 год дастойна вянчае восьмую пяцігодку. Стваральная дзейнасць народа азнаменавалася новай гістарычнай перамогай: пяцігадовы план па асноўных сацыяльна-эканамічных паказчыках выканан паспяхова.

Узяты новыя вышыні ў развіцці эканомікі. Узмацнілася абаронная магутнасць краіны. Павысіліся дабрабыт і культура народа. Атрымала далейшае развіццё сацыялістычная дэмакратыя. Умацавалася маральна-палітычнае адзінства савецкага грамадства, братства народаў СССР, іх згуртаванасць вакол ленінскай Камуністычнай партыі. Наша Радзіма зрабіла яшчэ адзін вялікі крок па шляху да камунізма.

Як ніколі трывалыя міжнародныя пазіцыі Савецкага Саюза, высокі яго аўтарытэт ва ўсім свеце. Верная ленінскім прынцыпам барацьбы за мір і сацыялізм савецкая знешняя палітыка забяспечыла спрыяльныя ўмовы для мірнай, стваральнай працы ў нашай краіне. Яна накіравана на ўмацаванне і развіццё сусветнай сістэмы сацыялізма, згуртаванне ўсіх антыімперыялістычных сіл, на абарону справы свабоды, незалежнасці і бяспекі народаў, справы міру і прагрэсу ва ўсім свеце.

Усе нашы поспехі ёсць вынік натхнёнай працы савецкіх людзей, адзінства волі і дзеянняў гераічнага рабочага класа, калгаснага сялянства, народнай інтэлігенцыі, працоўных усіх рэспублік нашай вялікай шматнацыянальнай Радзімы, вынік правільнай палітыкі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

У радасныя і ўрачыстыя мінуты сустрэчы Новага года мы звяртаемся да вас, працаўнікі заводаў і фабрык, шахт і будоўляў, калгасаў і саўгасаў, дзеячы навукі і культуры.

Да вас, савецкія жанчыны, якія здабылі глыбокую ўдзячнасць і павагу сваёй вялікай працай, мацярынскім клопатам аб падрастаючым пакаленні.

Да вас, юнакі і дзяўчаты, якія дастойна працягваюць вялікія рэвалюцыйныя традыцыі, працоўныя подзвігі бацькоў.

Да вас, доблесныя воіны савецкіх Узброеных Сіл, якія ахоўваюць мірную працу савецкіх людзей, заваёвы сацыялізма.

Гонар і слава вам, дарагія таварышы, сардэчная падзяка за вашу самаадданую працу, за вашу вернасць справе партыі, справе камунізма!

З пачуццем законнай гордасці за дасягнутае, поўныя аптымізму сустракаюць народы нашай Радзімы 1971 год. Наперадзе новыя рубяжы камуністычнага будаўніцтва. Краіна Саветаў уступае ў дзевятую пяцігодку, ідзе насустрач XXIV з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Мы цвёрда ўпэўнены ў тым, што савецкія людзі азнамянуюць з'езд роднай партыі далейшым уздымам усенароднага сацыялістычнага спаборніцтва, успрымуць яго рашэнні, як сваю кроўную справу, прыкладуць усе сілы, веды і вопыт для паспяховага іх ажыццяўлення. У вернасці ленінскім запаветам, у кіраўніцтве Камуністычнай партыі — надзейная гарантыя новых вялікіх перамог.

Мы звяртаемся ў гэту мінуту з сяброўскімі віншаваннямі да народаў брацкіх краін сацыялізма. Наша гарачае прывітанне камуністычным і рабочым партыям, рабочаму класу, працоўным сялянам, прагрэсіўнай інтэлігенцыі капіталістычных краін. Мы шлем найлепшыя пажаданні народам, якія скінулі каланіяльныя аковы, усім, хто змагаецца супраць імперыялізму, за свабоду, нацыянальную незалежнасць і сацыялізм.

Дарагія таварышы! Сябры! Зараз Крамлёўскія куранты абвесцяць аб надыходзе Новага года. Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР сардэчна віншуюць усіх вас і жадаюць вам у надыходзячым годзе моцнага здароўя, вялікіх поспехаў у працы на карысць нашай сацыялістычнай Радзімы. Няхай у Новым годзе радасць і шчасце спадарожнічаюць кожнай савецкай сям'і, кожнаму савецкаму чалавеку!

Няхай Новы год будзе годам новых перамог справы міру і дэмакратыі, справы сацыялізма і камунізма!

Наша навагодняя здравіца — у гонар вялікага савецкага народа, у гонар ленінскай партыі камуністаў і нашай горача любімай сацыялістычнай Радзімы!

З Новым годам, з новым шчасцем, дарагія таварышы!

# МАЦАВАЦЬ СУВЯЗІ З ЧЫТАЧАМІ

*З ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР*

25 СНЕЖНЯ адбылося чарговае і апошняе ў мінулым годзе пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі, на якім было разгледжана некалькі арганізацыйна-творчых пытанняў.

У прыватнасці, на пасяджэнні былі падведзены вынікі правядзення дзён літаратуры на Брэстчыне і Віцебшчыне. Аб тым, як прайшлі дні літаратуры ў Брэсцкай вобласці, расказаў Янка Брыль.

— Нашы тры пісьменніцкія групы, — гаворыць ён, — за час знаходжання на Брэстчыне пабывалі ў 12 раёнах вобласці і зрабілі на заводах, у калгасных і саўгасных клубах, у актавых залах вну і тэхнікумаў 32 выступленні. На гэтых літаратурных вечарах і сустрэчах пабывала каля дзесяці тысяч чалавек. Усюды да пісьменніцкіх груп, якія прыехалі з Мінска, далучаліся мясцовыя літаратары. Агульнае ўражанне — самае найлепшае. Шматлікія нашы сустрэчы з чытачамі былі надзвычай цёплыя, сардэчныя, шчырыя. Вялікае дзякуй мы павінны сказаць партыйным і савецкім кіраўнікам вобласці і раёнаў — менавіта іх клопатам і ўвазе мы абавязаны тым, што дні літаратуры на Брэстчыне прайшлі арганізавана, што ўсё было прадумана і прадугледжана.

З паведамленнем аб днях літаратуры на Віцебшчыне выступіў Леанід Прокша. Ён адзначыў, што падобныя выезды пісьменнікаў у раёны вобласці маюць велізарнае значэнне як для саміх пісьменнікаў, так і для чытачоў, што за дні сяброўскіх сустрэч са студэнтамі Віцебска, хімікамі Наваполацка, энергетыкамі Новалукомля літаратары многа пабачылі і пачулі, шмат чым узбагаціліся. Л. Прокша падкрэсліў таксама, што шматлікія літаратурныя вечары, праведзеныя ў самых розных кутках вобласці, прынясуць несумненную карысць у справе прапаганды і папулярызацыі роднай літаратуры.

У гаворцы па гэтым пытанні прынялі ўдзел Міхась Калачынскі, Піліп Пестрак, Юрась Свірка, Максім Танк, Іван Шамякін. Усе яны, адзначыўшы несумненны поспех, з якім прайшлі дні літаратуры на Брэстчыне і Віцебшчыне, падкрэслівалі, што гэтую добрую і карысную справу трэба працягваць: у бліжэйшы час правесці такія дні ў астатніх абласцях, а таксама ў сталіцы рэспублікі Мінску.

Прэзідыум праўлення СП БССР падсумаваў таксама вынікі семінараў творчай моладзі, якія былі праведзены ў Брэсце і Магілёве. Аб тым, як прайшлі гэтыя семінары, якую карысць яны прынеслі і што трэба зрабіць для таго, каб такія творчыя сустрэчы моладзі праходзілі надалей больш плённа, гаварылі на пасяджэнні Мікола Лобан, Станіслаў Шушкевіч, Анатоль Вярцінскі, Алесь Асіпенка.

На пасяджэнні выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. Канавалаў. Ён паведаміў, што ў сувязі з выхадам 500-га нумару старэйшага беларускага часопіса «Полымя» Дзяржаўны камітэт па друку пры Савеце Міністраў СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры ўзнагародзіў Ганаровымі граматамі вялікую групу беларускіх пісьменнікаў, — у прыватнасці, Петруся Броўку, Кандрата Крапіву, Аркадзя Куляшова, Міхася Лынькова, Івана Мележа, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Паўла Кавалёва. Р. Канавалаў уручыў таксама граматы Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку і БРК прафсаюза работнікаў культуры і юбілейны медаль «450 год беларускага кнігадрукавання» рэдакцыі часопіса «Полымя» і вялікай групе супрацоўнікаў і аўтараў часопіса.

На пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР у члены Саюза пісьменнікаў Беларусі былі прыняты Уладзімір Скарынкін, Леанід Рашкоўскі, Леанід Дайнека, Вольга Іпатава, Гаўрыла Шутэнка, Даір Слаўковіч, Галіна Васілеўская, Мікола Маляўка і Аляксей Гардзіцкі.

# ПАДАРОЖЖА Ў КІНАГОРАД

ЧАРГОВЫ семінар кіруючых творчых работнікаў Мінскі гарком партыі правёў на студыі «Беларусьфільм». Першай у праграме значылася — сустрэча з работнікамі кінастудыі. На гэтую сустрэчу з творчай інтэлігенцыяй прыйшлі дырэктар студыі Ул. Іваноўскі, рэжысёры І. Дабралюбаў, І. Вейняровіч, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў рэспублікі Ул. Цяслюк, галоўны рэдактар кінааб'яднання «Летапіс» А. Астроўская, сакратар партарганізацыі кінастудыі В. Ампілава.

У Савецкім Саюзе — сорак кінастудый. «Беларусьфільм» — адна з пяці буйнейшых. Яе гадавая прадукцыя — пяць мастацкіх, дзесяць поўнаметражных тэлевізійных, сотні дакументальных стужак. Аб'ём работы немалы, сказаў дырэктар студыі Уладзімір Іваноўскі, вось чаму ўвесь час адчуваецца сцэнарны голад. Праблема кінадраматургіі была і застаецца для студыі адной з галоўных — як і для іншых студый краіны. Нягледзячы на гэтыя цяжкасці, увесь план 1971 года ўжо запушчаны ў вытворчасць. У гэтым плане — мастацкі фільм «Эшалон для Германіі» па сцэнарыі І. Шамякіна, «Палангез Агінскага» па сцэнарыі К. Губарэвіча, фільм па «Рудабельскай рэспубліцы» С. Грахоўскага, «Патоп» па рамане Г. Сянкевіча сумесна з Польшчай, фільм пра Яна Налепку, адважнага беларускага партызана з Чэхаславакіі, разам з кінематаграфістамі краін сацыялізма будзе знята і некалькі дакументальных стужак.

На студыі пастаянна працуюць каля тысячы работнікаў, у тым ліку 250 — творчых. Складанай для студыі з'яўляецца «праблема акцёраў». За год даводзіцца наймаць каля чатырох тысяч акцёраў. У адным толькі тэлевізійным фільме «Руіны страляюць...» па сцэнарыі І. Новікава і І. Чыгрынава занята зараз каля шасцідзесяці акцёраў, палова з іх — з беларускіх тэатраў.

Ул. Іваноўскі спыніўся потым на «праблеме рэжысёраў». Студыя папоўнілася некалькімі маладымі здольнымі рэжысёрамі, такімі як В. Рубінчык, Л. Мартынюк і іншыя, на іх ускладваецца вялікая надзея. В. Рубінчык ужо добра зарэкамендаваў сябе тэлевізійным мастацкім фільмам «Чырвоны агітатар Трафім Глушкоў».

Пра ролю рэжысёра ў стварэнні фільма гаварыў І. Дабралюбаў. Ён падзяліўся таксама ўражаннямі аб рабоце нядаўняга пленума Саюза кінематаграфістаў СССР.

Як працуе кінааб'яднанне «Летапіс», расказала А. Астроўская. Поспех дакументальнай стужкі яна бачыць перш за ўсё ў вастрыні, актуальнасці, сучаснасці сцэнарыяў. Больш за сотню дакументальных стужак робіць аб'яднанне, і яно таксама адчувае вялікую патрэбу ў добрых сцэнарыях. А добрых — вельмі мала. Пара ўжо гэтак жа востра гаварыць аб праблеме драматургіі дакументальнага кіно, як і мастацкага.

Былі і пытанні да выступаючых, некаторыя нават непрыемныя.

Пісьменнік Аляксей Кулакоўскі папытаў, чаму студыя спачатку прэміявала сцэнарый А. Макаёнка, а потым адмовілася яго здымаць. Адказ прагучаў неперакаанаўча. «Чаму мала прыцягваюцца для стварэння песень для кінафільмаў беларускія паэты? — спытаў А. Дзяржынскі. — Калі і заказваюць тэксты, то толькі маскоўскім ці ленінградскім пісьменнікам». Ул. Іваноўскі прызнаў: «Недапрацоўка».

Дырэктар Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага К. Гусеў

Тысяча дзевяцьсот семідзесяты год адышоў у гісторыю. Гэта быў год далейшага поступу савецкіх людзей наперад у справе жывога ўвасаблення бессмяротных ленінскіх ідэй і запаветаў у канкрэтную хвалюючую яву нашай сучаснасці. У кожным кроку савецкіх людзей, у кожнай іх справе як бы нябачна прысутнічаў Ленін. Сам год быў ленінскім, прысвечаным стагоддзю з дня нараджэння вялікага правадыра. Не толькі савецкія людзі ўшаноўвалі памяць Ільіча. Яго імя, як зыркі маяк, асвятліла народам усёй Зямлі шляхі да лепшай будучыні, шляхі да перамогі над старым аджываючым светам.

Міхась ЛЫНЬКОЎ

# РАЗАМ З НАРОДАМ

Шмат падзей, шмат розных з'яў звязана з мінулым годам восьмай пяцігодкі. Вырас дабрабыт народа. Выкананы і перавыкананы яго пяцігадовыя планы і задумы. Павысіліся здабыткі прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Багата чаго дасягнута ў галіне навукі, культуры. Ёсць пэўныя дасягненні ў працаўнікоў літаратуры і мастацтва. Выйшлі новыя кнігі беларускіх празаікаў, паэтаў, драматургаў, дзіцячых пісьменнікаў.

У мінулым годзе савецкія людзі адзначылі дваццаціпяцігоддзе з дня перамогі над фашысцкай Германіяй. З дасягнутых вышынь сягонняшняга дня яны азіралі пройдзены за чвэрць веку шлях, шлях мірных гераічных працоўных подзвігаў, якія вярнулі спакутаванай, знявечанай вайной нашай роднай зямлі яе былую прыгажосць, яе цяплынь, яе ласку. Гэтыя мірныя працоўныя подзвігі народа былі дастойнымі яго ратных подзвігаў. Вораг быў лютым, бязлітасным. Ён пакінуў пасля сябе жахлівыя папялішчы, акрываўленыя руіны. Народ-герой адолеў ворага, дабіў гітлераўскую звяругу ў яго бярлозе, хутка залячыў найцяжэйшыя раны, зрабіў сваё жыццё, свае гарады і вёскі, свой побыт яшчэ больш багацейшымі і прыгажэйшымі, чымся яны былі да вайны.

У здабытках народа ёсць пэўны ўклад і пісьменнікаў, бо яны — адданыя сыны народа, неад'емная яго частка, бо літаратура, як гаварыў Дабралюбаў, «служэнне справе грамадскага ўдасканалення... лічыць сваім найсвяшчэнным прызначэннем». І сам талент пісьменніка, паводле трапных слоў М. Горкага, «дадзены яму народам яго». Значна вырасла за апошнія гады беларуская літаратура. Лепшымі сваімі творамі яна ўзнялася да сапраўднага чалавеказнаўства, да поўнага раскрыцця таго складанага духоўнага свету, хвалюючых думак, пачуццяў, якія так характэрны для нашага перадавога сучасніка — рабочага, калгасніка, інтэлігента. Гэтыя лепшыя творы яшчэ раз сцвярджаюць тую старую ісціну, што ўсё добрае ў літаратуры, як і ва ўсіх галінах мастацтва, ствараецца на аснове глыбокага і ўдумлівага вывучэння жыцця народа з яго думамі і запатрабаваннямі. Прыкладамі такой арганічнай сувязі з жыццём народа былі жыццё і творчая дзейнасць нашых класікаў — народных паэтаў Я. Купалы, Я. Коласа. Набліжэнню да жыцця народа, дакладнаму вывучэнню тых складаных глыбінных працэсаў, якія адбываюцца ў народзе ў выніку разгорнутага камуністычнага будаўніцтва — павінна быць падпарадкавана ўся праца пісьменнікаў і іх арганізацыі. Выезды пісьменніцкіх брыгад у Брэстчыну і Віцебшчыну, выступленні на фабрыках, у калгасах і саўгасах былі карыснымі і для чытачоў, і для пісьменнікаў. Такую практыку трэба перанесці і на астатнія вобласці і наогул прадоўжыць і надалей.

Я не пералічваю тут усе лепшыя творы нашай літаратуры, у якіх знайшло свой паказ усё яркае, хвалюючае, найбольш значнае ў жыцці, працы і змаганні народа. У кароткім артыкуле нельга даць ім дакладны аналіз і ацэнку. Гэтыя творы маюць выключнае выхаваўчае значэнне, яны дапамагаюць нашай партыі выхоўваць падрастаючае пакаленне як мужных і адданых змагароў за камуністычную будучыню.

Беларуская літаратура мае яшчэ некаторыя істотныя недахопы. З'яўляецца яшчэ багата шэрых твораў, не ўзброеных ні высокай ідэяй, ні бліскучай формай. Галоўны недахоп: зусім мала твораў аб сучаснай вёсцы і яшчэ меней аб гіганцкім росце нашай індустрыі, аб рабочым класе краіны. Тут зусім да месца прыгадаць вядомыя словы М. Горкага: «Рабочы клас гаворыць: літаратура павінна быць адной з прылад культуры ў маіх руках. Яна павінна служыць маёй справе, бо мая справа — агульначалавечая справа. Гэты голас — голас новай гісторыі. Ці добра чуе яго маладая літаратура? Я сказаў бы: кепска чуе». Яна «не заўважае ў хаосе зруйнаванага старога тое новае ўнутры чалавека, што ўжо нарадзілася, будзе жыць вякі і не знішчыцца, а толькі зменіцца на лепшае. Людзей, якія адчуваюць і ведаюць сябе свабоднымі творцамі і ўладарамі жыцця, усё яшчэ мала. Зразумела, іх усяго больш у Саюзе Саветаў, і я спадзяюся, што гэта не патрабуе доказаў. Я думаю, што літаратура наша яшчэ кепска бачыць, кепска разумее гэтых людзей і яшчэ мала здольна падтрымліваць, развіваць іх волю да творчай жыццядзейнасці. Літаратуры не хапае духу бадзёрасці, духу гераізму, тады як уся рэчаіснасць ужо гераічная».

Гэтыя словы Максіма Горкага, сказаныя ў 1929 годзе, не страцілі сваёй актуальнасці і па сённяшні дзень. Гіганцкае будаўніцтва, якое разгортваецца з кожным годам усё шырэй і шырэй у нашай краіне, і ў якім ўдзельнічаюць мільёны і мільёны савецкіх людзей, з'яўляецца тым працэсам, у якім нараджаюцца новыя характары, новыя людзі — героі нашай сучаснасці. Гэты працэс умоўна можна назваць своеасаблівай пераплаўкай чалавечых душ. У выніку атрымліваецца новы сплаў: людзі, ачышчаныя ад шматлікіх наследаванняў старога, аджытага. Усякая плаўка не абыходзіцца без пэўных адыходаў, без так званага шлаку. Чаго толькі не трапляецца ў гэтым шлаку: перажыткі капіталізму, злачыннасць, грубасць, невуцтва, дармаедства, п'янства, бюракратызм, коснасць, лодырніцтва і г. д.

У сталеплавільнай справе доўгія гады не ведалі, што рабіць са шлакам. Цяпер знойдзены спосабы карыснага выкарыстання гэтых адыходаў. Пісьменнікі сваім мастацкім словам павінны дапамагаць людзям паступова вызваляцца ад усялякіх перажыткаў, ад усякага шлаку мінулага.

У 1937 годзе вядомы пісьменнік А. Макаранка пісаў: «Мы акружаны буйным вар'яцтвам аганізуючага імперыялізму. Дзесьці там, у гушчарах дымных труб Рура, на жабрацкіх палях Італіі, у цеснаце японскіх абрабаваных гарадоў апошнія капіталісты прагнуць вайны. Яны працягваюць прагныя рукі ва ўсе бакі, да жалеза, да вугалю, да машыны, да нафты, да хлеба. У смяротным адчаі канца кожны фашысцкі лагер трызніць аб заваёве свету. І Гітлер, і Мусаліні, і японскія генералішкі — спараджэнне агульнага трызнення. Супраць гэтай сусветнай шайкі вар'ятаў мы ўзнялі і высока трымаем нашы гуманістычныя сцягі».

Прайшлі гады. Чвэрць веку таму назад адгрымелі апошнія залпы Айчыннай вайны. Усім вядомы фінал былой фашысцкай авантуры. Але засталіся паслядоўнікі былых вар'ятаў. Яшчэ варушацца гітлераўскія недабіткі, бразгаюць зброяй заакіянскія цемрашалы, цень самураяў блукае зданню над японскімі берагамі. Наша партыя і ўрад, народ наш не забываюць пра гэта і прымаюць належныя меры, робяць належныя захады, каб рубяжы нашай Радзімы былі недатыкальнымі для прагных рук любых вар'ятаў. Павінны памятаць аб гэтым і мы, пісьменнікі, — і дапамагаць народу сваім мастацкім словам, даваць чытачам высокаідэйныя і высокамастацкія патрыятычныя творы.

Мы ўступілі ў новы год жыцця. Савецкія людзі рыхтуюцца да дастойнай сустрэчы XXIV з'езда Ленінскай партыі. Партыя і ўрад праяўлялі і праяўляюць штодзённыя клопаты аб сацыяльна-эканамічным развіцці краіны, аб далейшым павышэнні ўзроўню матэрыяльнага і духоўнага дабрабыту працоўных, аб уздыме навукі і культуры, аб ажыццяўленні праграмы навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

Пісьменнікі не мысляць сваё жыццё і сваю дзейнасць па-за межамі гэтай велізарнай стваральнай працы народа. Яны будуць, як і заўсёды, яе актыўнымі ўдзельнікамі.

---

справядліва адзначыў, што часам студыя прад'яўляе прэтэнзіі да кіраўніцтва тэатраў зусім дарэмна. Калі б загадзя, за месяц высылалася заяўка на акцёраў, усё было б добра.

Потым галоўны інжынер студыі Б. Папоў пазнаёміў удзельнікаў семінара з тым, што ў праграме называлася коратка — «вытворчая база». І ў час гэтага знаёмства многія адкрылі для сябе шмат новага. Не, не дарэмна, напрыклад, заўсёды ставіцца ў цітрах прозвішча гукарэжысёра. Агучыць карціну — вельмі складаная справа. Атэлье агучвання... Атэлье шумаў (адных дзвярэй тут з тузін, і ў кожных свой стук, свой скрып)... Зала перазапісу. Часам розныя па характару гукі — размову, музыку, шумы даводзіцца перапісваць з васьмі і больш плёнак на адну. Як усё павінна ісці дакладна, як трэба старацца, каб для кожнага зыку быў свой «узровень» гучання!

А цэх апрацоўкі плёнкі — цэлая фабрыка, вялікі двухпавярховы будынак са складанай апаратурай айчыннай і замежнай вытворчасці... Цэх мантажу фільмаў. Якраз заспелі каля апаратуры рэжысёра-пастаноўшчыка тэлевізійнага трохсерыйнага фільма «Белая зямля» Аляксандра Карпава. Фільм пра незвычайныя прыгоды ўрача-беларуса Акуліча, які ў час вайны трапляе на поўначы на строга засакрэчаную нямецкую радыёстанцыю.

Павільёны для здымак... Правільна гавораць, што магутнасць студыі вызначаецца колькасцю і велічынёй павільёнаў. Беларускім павільёнам зайздросцілі нават кінадзеячы Галівуда. Ёсць два вялізныя, на тысячы квадратных метраў, вышынёй з шасціпавярховы дом. У адным павільёне ўбачылі ўдзельнікі семінара «хоры» касцёла з макетам аргана, у другім — партызанскую зямлянку.

— Ах, спазніліся вы крыху... — шчыра шкадаваў начальнік цэха дэкаратыўна - тэхнічных збудаванняў Міхаіл Грыцкевіч. — Толькі што раскідалі асабняк барона Урангеля. Вось бы палюбаваліся...

Са сталярнымі і слясарнымі цэхамі, з машынным паркам студыі, якому могуць пазайздросціць некаторыя раённыя аўтапаркі, з тэхнікай (ёсць нават сапраўдныя самалёты і танкі) «пазнаёміцца» не паспелі. Шкада!

А ў заключэнне прагледзелі ўдзельнікі семінара тэлевізійны мастацкі фільм «Чырвоны агітатар Трафім Глушкоў» і новую стужку «Чорнае сонца», сустрэліся з творчымі калектывамі, якія працавалі над фільмамі. Удзельнікі семінара шчыра павіншавалі іх з творчымі ўдачамі.

П. АНДРЭЕЎ.

---

СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# ТОСТ У СВЯТОЧНЫМ ЗАСТОЛЛІ

**Гэтыя сто радкоў з рэдакцыі хочацца назваць ста радкамі пажаданняў.**

**Пажаданняў дабра, шчасця, святла.**
**Радаснай творчасці — творцам.**
**Радасці сустрэч з іх творчасцю — чытачам і гледачам.**
**Шырокага прызнання — непрызнаным.**
**Неспакою непрызнаных — прызнаным.**
**Сталасці — маладым.**
**Маладой дзёрзкасці — сталым...**

**Слова наша сёння, можа, і не самае арыгінальнае. Можа нават — не арыгінальнае зусім. Пад Новы год не знойдзеш чалавека, які б са словам віншаванняў і добрых пажаданняў хоць да каго не звярнуўся. Нават калі ўвогуле зычлівасць і ўсмешка — на твары яго не такія ўжо частыя.**

**Ды ёсць звычаі якраз і прывабныя сваёй традыцыйнасцю. Сваёй, калі хочаце, вечнасцю. Сваёй, калі хочаце, чалавечнасцю.**

**З такіх — і навагодняе свята. Калі год, што мінае, быў для чалавека не з лепшых, у навагоднім застоллі гучаць пажаданні, каб той, што прыходзіць, быў лепшы, шчаслівейшы. Калі ж год, што мінае, успамінаецца з падзякай, тост узнімаецца за тое, каб гэткую ж і нават большую падзяку заслужыў і наступны.**

**За ўсенароднай нашай застоліцай мы праводзілі ўчора мінулы год з пачуццём светлым, удзячным. Агністаю лічбай «100» на фоне лабастага ленінскага профілю назаўжды пазначаны ён у летапісе эпохі. І маштабамі высокай гэтай адзнакі мерыла краіна ўсе свае здзяйсненні — зямныя, духоўныя, касмічныя.**

**Дзякуй табе, год мінулы, за новыя трасы высакавольтных электраліній на неабсяжных сібірскіх прасторах.**

**За магутную ўрадлівасць, якой парадавала зямля хлебаробаў Беларусі.**

**За нетаропкую ўпэўненасць «Лунахода-1» на грузкім пыле Месяца.**

**За кварталы новых камяніц у гарадах, назваў якіх яшчэ летась і пазалетась не было на картах, і за гарадское аблічча нованароджаных вёсак.**

**За зорныя гадзіны натхнення, якія даў ты кампазітарам і мастакам, пісьменнікам і дойлідам.**

**Верым, што такія гадзіны перажыў у мінулым годзе не адзін з вас, хто чытае зараз гэтыя радкі. І што ў годзе, які сёння на нашу зямлю ступіў, адгукнецца тое натхненне палымянымі старонкамі кніг, палотнамі і мелодыямі, якія ўсхвалююць мільёны сэрцаў. У мастацтве ж вельмі часта бывае, як на ніве,—зерне азіміны толькі на лета ўзнімаецца да сонца важкім коласам.**

**«Савецкая літаратура заўсёды была моцная тым, што яна чуйна ўлоўлівала галоўныя тэндэнцыі ў развіцці грамадства, раскрывала сэнс важнейшых падзей у жыцці партыі і народа. І зараз ёй прадстаіць адлюстраваць асаблівасці сучаснага этапа камуністычнага будаўніцтва, па-мастацку даследаваць сацыяльныя, маральна-псіхалагічныя аспекты навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў краіне, буйным планам паказаць героя нашых дзён».**

**Гэтыя словы — з нядаўняга перадавога артыкула «Праўды» «Высокае прызванне літаратуры». Ці трэба казаць, што задача, аб якой гаворыць газета, стаіць не толькі перад літаратурай — перад усімі відамі савецкага мастацтва. Каму, як не нам, савецкім мастакам, адлюстраваць у сваёй творчасці важнейшыя тэмы сучаснасці — жыццё і барацьбу сучаснага рабочага класа, глыбінныя змены, што адбыліся і адбываюцца ў калгаснай вёсцы, натхнёныя будні савецкай інтэлігенцыі! Велічнае, адказнае гэта прызванне. І высокае, невымернае шчасце быць па-сапраўднаму вартым яго...**

**Думаючы аб велічы задачы, што стаіць перад савецкімі мастакамі, давайце заўсёды ўсведамляць і яе адказнасць. Зноў і зноў будзем сабе нагадваць, што ніякая тэма — самая найважнейшая, самая найактуальнейшая!— не дасягне сваёй мэты, калі вырашана стандартна, убога, шэра. Наадварот — шэрасць дыскрэдытуе тэму, працуе не НА яе, а СУПРАЦЬ яе. Не можа быць саюзнікам партыі, агітатарам за нашы светлыя ідэалы пасрэдны твор, напісаны нібыта і на вельмі баявую тэму... Нават у святочны наш дзень хочацца пра гэта гаварыць, бо шэрасць, банальнасць часам яшчэ ўтульна адчуваюць сябе і на старонках нашых літаратурных часопісаў, і на тэатральнай сцэне, і ў павільёнах кінастудыі.**

**Новы год прыйшоў у нашы гарады і вёскі, на нашы вуліцы і ў кватэры, у нашы справы, планы, задумы.**

**Год, які мы пачынаем пад знакам падрыхтоўкі да XXIV з'езда партыі.**

**Год, ад якога мы многага чакаем і якому многае абяцаем.**

**Хай жа здзейсняцца ўсе твае чаканні, таварыш!**

**З Новым годам!**

Паэтычная **паверка**

Алесь ЗВОНАК



# ПЕРШЫ СНЕГ

## 1. ПЕРАДЗІМОВАЕ



Яшчэ не снег, пароша толькі,
Яшчэ далёка да каляд,
А твар кусае вецер золкі
І лёдам скута каляя.

Адбітак колаў між калдобін
Змяёй паўзучаю пралёг,
І дрэвы ў срэбранай аздобе—
Нібы завей сівых пралог.

Так міла ўсё. І.адзінота,
І гэта царства цішыні,
І шэпт засохлага чарота,
І пад лядком усплёск крыніц,

І прэлы ліст асіны горкай,
Ледзь прыцярушаны сняжком,
І след вяртлявае вавёркі,
І апусцелы дзятлаў дом...

Іду, мінаючы прысады,
Між дрэў бязлістых і нямых.
Бярозак белых каланада
Вядзе ў чароўны храм зімы.

Вядзе у свет забытай казкі,
У свет прыгод, дзівос, падзей,
Дзе ходзіць борам без апаскі
Даўно забыты Берандзей...

О свет наіўных уяўленняў,
О рамантычны дзіўны свет!
Лаўлю ўспамін, нібы аленні
Па першазімку лёгкі след.

І не дзіўлюся аніколькі
Прыкметам блізкай даўніны,
Калі убачу ў шэрым золку
Аблічча роднай стараны.

Калі ў застылых каляінах,
У грудах руннае раллі
Убачу мілыя маршчыны
Маёй карміцелькі-зямлі.

Калі ў вачах маёй Айчыны
Убачу водсвет дабраты,
Душой спасцігнуўшы прычыны
Яе высокай прастаты.

Калі ў прасторы безбярэжным
Убачу, паланёны сам,
Як свеціцца ў кароне снежнай
Яе нятленная краса!

## 2. СНЯЖЫНКІ

Ляцяць сняжынкі, быццам успаміны
Маланкай перакрэсленых гадоў:
Над Бурхалою белыя вяршыні,
Запевы прыісковыя гудкоў.

Там не сняжынкі, там пурга бушуе,
Снег замятае стылыя гальцы.
Там спіртам грэў азяблую душу я,
Каб не аддаць у бездараж канцы.

Там друг жыве. Нямала пеннай брагі
За дваццаць зім мы з ім перавялі...
На горных рэках нам грымелі драгі
Найвесялейшай музыкай зямлі.

Гады сяброўства — гэта не адцінак
Кароткіх стрэч: «здароў — бывай здароў!».
Іх не купіць за жменю залацінак
І не прадаць за ломкі хруст рублёў.

Яны пякельнай сцюжай гартаваны,
Дзе сопкі-сведкі строіліся ў рад,
Калі жывую здань палярных ззянняў
Выводзіў снежань моўчкі на парад.

І вось цяпер сняжынкі успамінаў
Скрозь забыцця залочаны пылок
Ляцяць, ляцяць заснежанай далінай
Туды, дзе ў тундру дружбы след пралёг.

І бачу я: друг Саша нібы маг той
Знікае горда ў чэраве зямным,
Адкуль на белы свет з глыбіняў шахты
Плывуць вагонкі з грунтам залатым.



Бог кубажа, падземных нетраў знаўца,
Маркшэйдэр шахт, ён нёс тэадаліт,
Як булаву Багдан. Такіх, прызнацца,
Жыве не вельмі густа на зямлі.

Цяпер на дзікім тым мерыдыяне
Агні эпохі плавяць лёд і стынь.
І голас дружбы кліча на спатканне —
Яшчэ пуд солі з'есці хоць адзін.

Што адкажу? Нас—ты ды я— адзіны.
Дык прылятай на ІЛе ці на ТУ,
Пакуль зімы сівенькае сняжынкі
Не пабялілі скроні на ляту!

## 3. ПЕРШАЗІМАК



Мал. В. ТАРАСАВА.

Ну вось і скончан доўгі паядынак.
Вятроў гамонка сціхла. Лес у сне.
Скупое сонца ў безлічы іскрынак
Адлюстраваў сцюдзёны першы снег.

Як дабяла адмытая бялізна,
Лягла на дол сняжынак белізна.
І сонца шар халодны і вялізны
Зямлі нямой нібыта не пазнаў.

Стаю адзін, як слуп на скрыжаванні,
Скрозь белы сон лаўлю нясмелы гук
І множу словы радасных спатканняў
На гаркату няпрошаных разлук.

Хто пераможа? Як забыты здымак
Уваскрашае памяць гэткі ж дзень:
І цішыню, і снег, і першазімак,
І на ружовым снезе сіні цень...

І ў сэрцы рэха той адной хвіліны,
Што белым крыллем высака ўзнялі
Пірамідальных елак верхавіны,
Узвышша заварожанай зямлі...

І ўсё, ў чым бачыў змест і сэнс і сутнасць,
Чым так юнацтва ўмела даражыць,
Я перажыў, як і тваю адсутнасць,
І, як сваё падзенне, перажыў...

І за гады, што слухаў крокаў гукі,
Што рэха іх лавіў сто раз на дню,—
Я навучыўся быць глухім да стуку,
Я навучыўся слухаць цішыню.

Вось і цяпер я немасці ў абдымкі
Душу і памяць сэрца аддаю,
Няхай сабе па чыстым першазімку
Кладуць сцяжынку роўную сваю.

ЗА ВОКНАМІ лютавала снежная завіруха. Снежныя крупы замяталі праезды і вуліцы маўклівай, скаванай холадам Масквы... Невысокі хударлявы чалавек з адкрытым ілбом кідаў у настылую залу агністыя, знітаваныя жалезнай логікай словы. Дэлегаты VIII з'езда Саветаў прагна лавілі кожную фразу Уладзіміра Ільіча. Ледзь-ледзь трымцелі цьмяныя люстры, святла хапала толькі на тое, каб вырваць з цемры сцэну, і перад позіркам стомленых, згаладалых людзей паўставаў заўтрашні дзень краіны — у рыштаваннях будоўляў, у моры святла.

Магчыма, у тыя ж хвіліны, калі Уладзімір Ільіч Ленін выступаў перад дэлегатамі з'езда, тысячы парыжан гарталі свежы нумар «Фігаро». Што там, у далёкай і дзіўнай Расіі? І газета адказвала: «Агульнае эканамічнае становішча выглядае так, што няма ніякай магчымасці кіраваць. Усе меры, распрацаваныя Леніным для выратавання краіны, дарэмныя. Агульнае ўражанне: бальшавізм памірае».

Ды што «Фігаро»! Здавалася б, больш спакойная і ўраўнаважаная «Нью-Йорк таймс» у першыя гады Савецкай улады 91 раз прадракала нашай дзяржаве немінучую гібель. Нашы задумы газета называла «выклікам пачуццю прапорцыі», «сумнай энцыклапедыяй неўтаймаванай фантазіі»... План ГОЭЛРО, які У. І. Ленін разглядаў як другую праграму партыі, з'едлівая буржуазная прэса ахрысціла «электрафікцыяй», «утопіяй», «блефам».

Зласліўцы смяяліся з нашага жыцця. І жыццё пасмяялася з іх.

Уладзімір Ільіч, распрацоўваючы тэарэтычныя праблемы стварэння новага грамадскага ладу, з геніяльнай празарлівасцю ўказваў: **«Камунізм — гэта ёсць Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны».**

Ленінская формула з надзвычайнай сілай падкрэсліла непарыўную сувязь паміж перадавым палітычным ладам і перадавой эканомікай.

План ГОЭЛРО з'явіўся практычным увасабленнем ленінскай ідэі стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы сацыялізма, важным крокам у справе далейшага ўмацавання і развіцця новых форм эканомікі. Развіццё прамысловасці на вышэйшай тэхнічнай аснове, на базе электрычнасці, адкрыла перспектывы для сацыялістычнага пераўтварэння сельскай гаспадаркі. Разам з тым план ГОЭЛРО меў велізарнае культурнае значэнне. Ён указваў, што кожнае прадпрыемства, кожная электрастанцыя павінны ператварацца ў ачаг асветы, што электрыфікацыя нясе з сабой перабудову быту мільёнаў людзей, іх культурнае адраджэнне.

Нават сусветна вядомы пісьменнік Герберт Уэлс, аўтар таленавітых навукова-фантастычных раманаў, чалавек прагрэсіўных для буржуазнай інтэлігенцыі поглядаў, які наведаў у 1920 годзе Савецкую Расію і гутарыў з Уладзімірам Ільічом, не мог паверыць у рэальнасць ленінскіх задум. Для яго наша ўяўленне будучыні было смелай, геройчнай, але бясплённай марай.

Ну што ж, скептыкі сумняваліся, патэнтаваныя і непатэнтаваныя варажбіткі прадраклі хуткі канец чырвонай Расіі. Але вызвалены народ выйшаў будаваць, каб сваёй працай, сваім штодзённым подзвігам зрабіць явай мару Ільіча.

І радкі ленінскага плана пачалі поўніцца жыццём, паўставаць «важка, груба, бачна», апранутыя ў камень і бетон індустрыяльных гмахаў.

У 1920 і 1921 гадах уведзены першыя 12 тысяч кілават энергетычных магутнасцей.

4 чэрвеня 1922 года пабудавана першая

# СПАДАБАЛАСЯ І ЗАПОМНІЛАСЯ...

## НАВАГОДНЯЯ АНКЕТА

*Пачуўшы словы «навагодняя анкета», магчыма той-сёй з чытачоў ўздыхне: «Было ўжо сто разоў—банальна». Не спяшайся, дарагі чытач, з катэгарычнымі вывадамі. Наша сённяшняя анкета асаблівая. Мы папрасілі дзеячоў беларускай літаратуры і мастацтва падзяліцца сваімі ўражаннямі, думкамі аб работах таварышаў па прафесіі ў суседніх творчых цэхах. Гэта будзе некампетэнтная размова,—можа сказаць хто-небудзь. Маўляў, што скажа слушнага скульптар пра музыку? Прызнаемся, былі і такія, што адмовіліся адказваць на пытанні анкеты. Матывіроўка? Нічога ў прайшоўшым годзе не прачытаў, не бачыў, не слухаў. Займаўся толькі сваёй справай.*

*На шчасце, пераважная большасць тых, да каго мы звярталіся, паказалі шыры-*

# ВОСЬ ЯНА, МУЗЫКА ТУРБІН!

## 50 ГАДОЎ ПЛАНА ГОЭЛРО

Д. РАДЗЮК,
кандыдат філасофскіх навук.

чарга Кашырскай электрастанцыі — першыица плана ГОЭЛРО.

19 снежня 1926 года ўвайшла ў строй Волхаўская ГЭС.

Так ствáралася наша айчынная энергетыка. Адсюль, ад Кашыры і Волхава, яшчэ ледзь бачныя агні Днепрагэса, волжскіх і сібірскіх энергагігантаў, яшчэ толькі мрояцца наперадзе, клічуць да сябе... Але першыя крокі зроблены! Мы стаім на дарозе, якая прывядзе нас — абавязкова і напэўна — да святла.

Яны спачатку пакідалі на карце рэдкі россып ружовых кропак. Потым «гусцелі» агні энергетычных будоўляў, зліваліся ў ручаі, у патокі, у суцэльныя рэкі стваральнай энергіі.

Ці даўно гэта было? На нарозе трыццатых гадоў Паўлюк Трус са шчырым захапленнем чакаў хвіліны, калі родны Мінск зацвіце букетам электрычных лямпачак:

> Добры дзень, аснежныя прасторы,
> добры дзень, сталіца хараства!
> Скора ў бляску вечара, ой, скора
> празвініць на вуліцах трамвай.
> І тады я стану пад гарою,
> каб пазбыцца смутку і журбы,
> буду слухаць песні Асінстрою,
> захаплюся музыкай турбін.

Музыка турбін... Яна не адразу перамагла тужлівыя гукі адвечнай жалейкі!

Да рэвалюцыі эканамічны ўзровень развіцця Беларусі быў катастрафічна нізкі. Энергетычная гаспадарка складалася з некалькіх гарадскіх электрастанцый магутнасцю ў некалькі сотняў кілават і невялікіх установак на радзе прамысловых прадпрыемстваў.

А якая была энергетычная тэхніка? У Мінску на электрастанцыі былі ўстаноўлены тры паравыя машыны замежнай фірмы магутнасцю 300 конскіх сіл. Ад гэтай станцыі па горадзе ішла «лінія электраперадач», якая налічвала 180 слупоў, аддаленых адзін ад аднаго на адлегласць сто метраў, на якіх віселі ліхтары з 16-свечавымі лямпамі. Калі свяціў месяц, яны не запальваліся.

У 1913 годзе ўсе электрастанцыі Беларусі выпрацавалі толькі 3 мільёны кілават-гадзін. На душу насельніцтва прыпадала толькі 0,5 кілават-гадзіны электраэнергіі, або менш чым у цэлым па ўсёй Расіі ў 30 разоў.

За час грамадзянскай вайны і белапольскай акупацыі і без таго слабая энергетычная гаспадарка прыйшла ў поўны заняпад, была напалавіну разбурана. Зразумела таму, якое велізарнае значэнне меў план ГОЭЛРО для Беларусі. У ім знайшлі глыбокае адлюстраванне патрэбы і перспектывы развіцця нашай рэспублікі, як і ўсёй краіны.

Аднаўленчы перыяд пакінуў важкі след на беларускай зямлі. За параўнаўча кароткі гістарычны тэрмін, ажыццяўляючы ленінскія запаветы, ператварылася ў край суцэльнай электрыфікацыі і наша рэспубліка. Беларускі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі з першых дзён мірнага будаўніцтва пачаў стварэнне ўласнай энергетычнай базы. За кароткі час былі адноўлены і расшыраны электрастанцыі ў Мінску, Гомелі, Віцебску, Бабруйску, Магілёве, Полацку і Добрушы. У 1927 годзе пачалося наступленне на Асінаўскія тарфяныя балоты і будаўніцтва ў Аршанскім раёне першай у рэспубліцы буйной раённай электрастанцыі БелДРЭС, першынца ленінскага плана ГОЭЛРО ў Беларусі. Праз тры гады яна ўвайшла у строй і дала ток Віцебску, Магілёву, Оршы, а таксама сельскагаспадарчым раёнам гэтага вялікага краю. Разам з лямпачкай Ільіча ў вёску прыйшлі кіно і радыё, прыйшла новая сацыялістычная культура.

Паспяховы фініш стаў рубяжом для новых стартаў. Першая пяцігодка заклала надзейны падмурак для шпаркага развіцця сацыялістычнай прамысловасці ў гады другой пяцігодкі. Асаблівая ўвага была звернута на паскоранае развіццё паліўна-энергетычнай базы рэспублікі, якая, нягледзячы на поспехі, дасягнутыя за пяцігоддзе, усё ж адставала ад вялікіх патрэб народнай гаспадаркі.

Камуністычная партыя Беларусі ўзняла працоўную энергію і энтузіязм народа. запаліла яго пафасам вялікіх будоўляў. У выніку выканання другога пяцігадовага плана магутнасць электрастанцый рэспублікі ў 1937 годзе дасягнула 87,4 тысячы кілават, або павялічылася за пяцігоддзе ў 1,5 раза, а выпрацоўка электраэнергіі ў 2,5 раза. За гады другой пяцігодкі былі пабудаваны Лепельская ГЭС-2, Слуцкая, Мазырская, Полацкая, Барысаўская ЦЭЦ, а таксама шэраг электрастанцый у раённых цэнтрах Заслаўі, Дзяржынску, Верхнедзвінску, Нароўлі і інш.

Трэцяя пяцігодка ставіла задачу даць такі рост электрыфікацыі БССР, пры якім былі б забяспечаны ўсё большыя патрэбы народнай гаспадаркі і культуры ў электраэнергіі.

Аднак музыку турбін заглушылі грозныя выбухі. Вераломны напад фашысцкай Германіі перапыніў мірную стваральную працу беларускага народа. Пад ударам аказаліся набыткі нашых стваральных будняў, наша жыццё, наша будучыня.

Ваеннае ліхалецце нанесла цяжкія страты народнай гаспадарцы Беларусі. Скапаная акопамі і варонкамі снарадаў ляжала параненая зямля. У руінах ляжалі буйныя электрастанцыі і прамысловыя прадпрыемствы рэспублікі. Нам зноў давялося пачынаць усё нанава. У першую чаргу ўсе думкі былі накіраваны на адраджэнне энергетычнай базы. Толькі аднавіўшы яе, можна было прывесці ў дзеянне сілу, якая давала магчымасць у найкарацейшы тэрмін узняць з руін і попелу прамысловасць, сельскую гаспадарку, транспарт, удыхнуць жыццё ў гарады, рабочыя пасёлкі, у калгасы і саўгасы.

Аднаўляліся старыя электрастанцыі, адна за адной уступалі ў строй новыя — Мінская ЦЭЦ-3, Смалявіцкая, Васілевіцкая, Бярозаўская ДРЭС і іншыя. Ужо ў 1965 годзе электрастанцыі рэспублікі выпрацавалі амаль восем з палавінай мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі.

Паспяхова ідзе развіццё энергетыкі рэспублікі ў гэтым пяцігоддзі. За пяцігодку магутнасць электрастанцый павялічылася амаль удвая, а выпрацоўка электраэнергіі дасягне ў 1970 годзе 17 мільярдаў кілават-гадзін. Флагманам беларускага энергабудавання з'яўляецца Лукомльская ДРЭС. Кожная з устаноўленых на ёй турбін будзе роўная магутнасці дзесяці БелДРЭС.

Поўнасцю завершана ў рэспубліцы электрыфікацыя калгасаў і саўгасаў. Усе электрастанцыі Беларусі аб'яднаны ў агульную энергасістэму, якая злучылася з паўночна-заходняй сістэмай СССР і міжнароднай энергасістэмай «Мір». Морам святла цудоўных зямных сонцаў заліты цяпер нашы гарады і вёскі. Самыя смелыя ленінскія задумы ўладна ўваходзяць у жыццё.

...Удзень і ўначы гудуць магутныя турбіны. На Дняпры і Енісеі, на Заходняй Дзвіне і Обі нараджаюцца тысячы і тысячы ленінскіх сонцаў. Іх запальвае энергія нашых рук і думак, наша дзейсная, па-ленінску смелая і плённая праца.

# ІМ ПРЫСВОЕНЫ ГАНАРОВЫЯ ЗВАННІ

*За заслугі ў развіцці выяўленчага мастацтва і падрыхтоўцы кадраў мастакоў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР тт. Крахалёву П. С. і Любамудраву П. К.*



**КРАХАЛЁЎ** Пётр Серапіёнавіч, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР. У 1937—1939 гадах вучыўся ў Свярдлоўскім мастацкім вучылішчы. У час Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў радах Савецкай Арміі, прымаў удзел у партызанскім руху. З 1945 па 1952 год вучыўся ў Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна. У 1952 годзе пераязджае ў Мінск. У мастацкіх выстаўках удзельнічае з 1953 г. Творчую работу ў галіне жывапісу спалучае з педагагічнай дзейнасцю. З'яўляецца дэканам мастацкага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

**ЛЮБАМУДРАЎ** Павел Канстанцінавіч, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР. У 1937 г. паступіў у сярэднюю мастацкую школу пры Усерасійскай Акадэміі мастацтваў. З 1939 года студэнт жывапіснага факультэта Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе. З 1941 года ў радах Савецкай Арміі. Дэмабілізаваўшыся пасля ранення, пераводзіцца на графічны факультэт Маскоўскага мастацкага інстытута імя Сурыкава. З 1951 года пачынае педагагічную дзейнасць у Латвійскай Акадэміі мастацтваў. У 1957 годзе пераязджае ў Мінск і працуе кіраўніком графічнай майстэрні ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Цяпер выконвае абавязкі прафесара. У мастацкіх выстаўках удзельнічае з 1949 года.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

*Сардэчнае дзякуй усім арганізацыям, сябрам і таварышам, чытачам якія павіншавалі мяне з шасцідзесяцігоддзем і высокай урадавай узнагародай.*

Аляксандр МІРОНАЎ.

## НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ



Малюнкі мастака В. Бароўкі да кнігі Івана Сяркова «Мы — хлопцы жывучыя», якая выходзіць у выдавецтве «Беларусь».

*ню інтарэсаў, поглядаў, тонкі густ у розных галінах мастацтва.*

*А наогул лепш меркаваць аб гэтым па адказах, якія публікуем.*

### Ул. КАРАТКЕВІЧ,

пісьменнік:

— «Зорку Венеру» Юрыя Семянякі ў пастаноўцы нашага тэатра оперы і балета глядзеў аж два разы. Першы раз—адзін. Другі—з маці. Пераананы, што гэта пачатак чагосьці вельмі цікавага ў беларускім оперным мастацтве. Выключна ўдалая работа мастака. Харошыя Вераніка, Багдановіч, лірнік. Лічу, што пяток такіх спектакляў—і тэатр будзе мець свой нацыянальны рэпертуар.

### І. ЛАКШТАНАЎ,

заслужаны артыст БССР:

— Мяне асабіста вельмі парадаваў кампазітар Ігар Лучанок. Асабліва яго «Песня аб тральшчыку» («Камсамолец Беларусі»). Напісаная з вялікім душэўным уздымам, яна вельмі добра ўспрымаецца слухачамі і можа ўпрыгожыць любую канцэртную праграму.

### Я. ЧАМАДУРАЎ,

народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР:

— З усяго, што прачытаў у мінулым годзе, два творы пакінулі незабыўнае ўражанне. «Сотнікаў» Васіля Быкава і «Спеў аб Гаяваце» Лангфела ў перакладзе Аркадзя Куляшова. Быкаў усхваляваў сваім майстэрствам псіхолага. Характары, калізіі, абставіны аповесці—усё пераканаўча, усё зроблена вялікім майстрам. Пераклады Куляшова—гэта высокая паэзія ў самым поўным сэнсе слова. Перакладчык яшчэ раз парадаваў высокім густам і ўласцівым яму высокім талентам.

### Ю. МАРУХІН,

кінаапаратар студыі «Беларусьфільм»:

— Што спадабалася! Як вам сказаць! Калі вы жывяце ў мікрараёне, дык зразумееце мяне. Колькі гадоў будавалі кінатэатр на бульвары Шаўчэнкі, не ведаю. Але ў мінулым годзе, нарэшце, адкрылі. Як гэта звязаць з мастацтвам! Вельмі проста. Паглядзіце, як яго афарміў Аляксандр Кішчанка. Нечакана, цікава, ярка. Выдатна афарміў. Жадаю, каб у новым годзе з'явіліся не горшыя кінатэатры ў іншых раёнах вялікага Мінска.

### З. АЗГУР,

скульптар, народны мастак БССР:

— Лепшае, што я бачыў у мінулым годзе на сцэне,—спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Амністыя». Аўтар п'есы Мікола Матукоўскі, звяртаючыся да самых высокіх пачуццяў чалавека, адначасова, ганьбіць хамства, дэмагогію, руціну. Твор дзейсны, ваяўнічы. Купалаўцы сыгралі яго ў добрым ансамблі. Аднолькава заслугоўваюць станоўчай ацэнкі і маладыя выканаўцы, і сталыя майстры сцэны. Спектакль добра «збіты» рэжысёрам Ціханам Кандрашовым. Вельмі проста і глыбока афарміў яго мастак.

Жадаю купалаўцам і далейшых поспехаў.

### Б. ЗАБОРАЎ,

мастак:

— Цяжка так адразу і катэгарычна адказаць на пастаўленае пытанне. Трэба ўспомніць... Ну, вось хоць бы дакументальная стужка творчага аб'яднання «Летапіс» студыі «Беларусьфільм» «Насельнікі» рэжысёра Пелеш'яна. Фільм аб гармоніі ў прыродзе. Маляўнічы, трапяткі, багаты фарбамі. Дынамічна пабудаваны. І вельмі гуманны, чалавечны па сваёй задуме.

### Л. ТАРАСАВА,

рэжысёр тэатра юнага гледача:

— Хачу сказаць пра работы беларускіх мастакоў-жывапісцаў, якія бачыла на выстаўцы, прысвечанай 50-годдзю ЛКСМБ. Розныя па тэматыцы, манеры выканання, але яркія, свежыя, арыгінальныя. Напрыклад, нацюрморт з пішучай машынкай Мая Данцыга. Які значны падтэкст у такім на першы погляд камерным жанры!

Запомнілася палатно «Студэнты» Леаніда Шчэмелева. Спадабаліся каларыт, кампазіцыя, характарыстыкі герояў. Усё лаканічна, стрымана. Добрае ўражанне пакінула і карціна Аляксандра Кішчанкі «Салдаты рэвалюцыі»...

### А. МІЛАВАНАЎ,

артыст тэатра імя Я. Купалы:

— Люблю сапраўдную паэзію. Як заўсёды прыемна было сустрэцца са «старымі знаёмымі»—вершамі Анатоля Вярцінскага і Рыгора Барадуліна.

Але часам пакідае вялікае ўражанне і нечаканая сустрэча з новым аўтарам, новым творам.

Я маю на ўвазе верш Наталлі Татур «Чацвёрты», надрукаваны ў адным з нумароў часопіса «Неман». Думаю, што не толькі для мяне гэта сустрэча была прыемнай.

### В. НЯЧАЙ,

кіназнаўца:

— Праграмы Мінскага камернага аркестра, якім кіруе Юрый Цырук, пакінулі самае моцнае ўражанне. Адна толькі 14-я сімфонія Шастаковіча—і тое прычына для роздуму пра чалавека, пра наша трывожнае і поўнае хараства, барацьбы жыццё! А колькі старонак музычнай літаратуры мінулых стагоддзяў прагучала на філарманічнай эстрадзе ў яго выкананні! Высокі прафесіяналізм аркестра падкупляе і знаўцаў, і навічкоў...



**Т**ВАР у бабулькі — вузялок маршчын. Угледзела нас яшчэ здалёк і пакалдыбала з высокага ганка насустрач, апусцілася долкі. І ўсё глядзіць з-пад рукі, каб пазнаць хоць каторага.

— Добрага здароўечка, Надзея Спірыдонаўна!—крычыць з-за брамкі Паўлюк Цацура.—Мо кваском пачастуеце?

— А-а, гэта ты,—пазнала Паўлюка.—Нешта даўно вачэй не паказваеш.

Пакуль старая ўзбіраецца на заінелы ганак, я цікую за Паўлюковай «даўняй знаёмай». На плечы накінуты паношаны рудаваты кажушок з дубовымі цурбалкамі замест гузікаў, зашмальцаванымі да чарнаты; на нагах—валёнкі-катанкі фабрычнай работы, яшчэ зусім новыя і чорныя, як смала; на галаве—аж рэжа ў ваччу—квяцістая кашміроўка.

— То заходзьце,—старая бразгае клямкай і адхінае дзверы ў нізенькія сенечкі.—Прывечу чым-кольвечы...

Хата лесніка, як і скрозь цяпер на Палессі,—вялікая, светлая; у ёй надта душна, пахне грыбамі, смалой-жывіцай, брусніцнікам і яшчэ нечым гаркаватым —святаяннікам ці багуном. Паўлюк адразу ўзмакрэў, але не аціх—круціцца каля старой. Гэта ж трэба ўмець так вылузвацца перад кожным. Набыткам сваім выхваляецца: у яго заяц і дзве вавёркі. А што рабіць мне? Я—няўдачнік. Хоць плач, хоць скач—няўдачнік. Ніяк не шчасціць на паляванні. Дачка і на гэты раз так прасіла, маліла, «на дарожку» пасядзець, маленькі табурэцік падсунула, ды што паробіш—не шчасціць! «Лісіцку плынясі, татка,—шчабятала яна.—Мамка пасые мне такія тапацкі, як у Клаўкі Цацулы».

Ах, гэты Цацура! «У сарочцы нарадзіўся чалавек,—не раз чуў я ад людзей.—Усё ў яго — як па масле...» Яно і сапраўды. Гадоў пяток, як пасяліўся ў нашым райцэнтры, а ўжо мохам абрастае: дом з садам купіў у перасяленца, пчол завёў. І пасаду займае, як сам кажа, «з гулькін нос», а вось умее жыць. З усімі кампанію водзіць, з усімі—за руку. І ўсё ў яго складна—і дома, і на паляванні. Праўда, неяк летась гаварылі на яго нядобрае—лася забіў ці што. Але ж гэта, напэўна, плёткі: нічога не знайшлі пры вобыску. «Такі,—смяяліся на ўсю вуліцу,—у жорны пападзе і то будзе цэлы».

Мы жывём з Цацурам цераз вуліцу—вільчык у вільчык. Кожнай раніцы паўз яго вокны я іду на работу ў рэдакцыю, вечарам — дамоў. Страчаемся штодня, а вось сяброўства так і не завялі. Я нават не ведаю, хто ў гэтым больш вінаваты—сусед ці я. Мне не падабаецца, што ён заўсёды гаворыць пра каўбасу. (Паўлюк працуе нарыхтоўшчыкам пры раённай каўбасні і менавіта каўбаса—нязменная тэма яго гаворкі). На любую жывёліну—хай то марудлівы ўкормак ці спраўны рабочы вол—глядзіць як на фарш: прыкідвае, колькі б з іх «накруцілі» каўбасы.

Сёння на досвітку, калі я яшчэ бразгаў рукамыйнікам, ён заскочыў на кухню—упершыню за столькі гадоў—і запрасіў на паляванне. Няўзнак намякнуў, што робіць гэта «дзеля падтрымкі, знацца, добрасуседскіх адносін».

— Удвох, знацца, весялей будзе,—тлумачыў дарогай.—Адзін у лесе, знацца, не воін.

І вось цяпер за добрыя дваццаць кіламетраў ад райцэнтра, недзе пад самыя Раздзялавіцкія хутары, у хаце лесніка мы п'ём халодны—аж зубы коле—квас.

— Э-эх!—пакрэктвае мой сусед, апаражняючы трэцюю конаўку,—Смаката-а! Такога ў нас, у Ганцавічах, днём з агнём не знойдзеш.

Я не хачу пагадзіцца з ім, але і не пярэчу: навошта крыўдзіць бабульку? Яна мітусіцца каля макатра з квасам, які прынесла аднекуль з падполля, і паркалёвая—у клетачку—кофта матляецца на ёй, як на вешалцы. Час ад часу яна пазірае на маю новую «іжаўку», на пусты ягдташ. Цацура перахапіў яе позірк, тлумачыць:

— Гэта мой сусед, Спірыдонаўна. Журналіст. Газету, знацца, робіць. Бачыла калі такіх людзей?

— А няўжо ж, бачыла. Даўно то було. Заязджаў да нас такі з лоўчым. З Варшавы, казалі, прыязджаў. Жорава дужа прасіў, каб у горад увезці.

— Якога жорава?—настрыў вушы Паўлюк.

— Якога? Сапраўдашняга, жывога. Іх тутка да гібелі було.

— Каралеўская дзічына!—пацірае рукі Цацура.—Ніколі блізка не бачыў. От бы падстрэліць!..

Упершыню заўважаю вочы бабулькі: маленькія і—аж дзіўна—сінія-сінія, як кветка-сон ранні́м прадвеснем. Яны ўспыхваюць гнеўным бляскам.

— Такога птаха!—пляскае старая ў далоні.—Няможна, саколікі. Вы адно згледзелі б, які то красун...

— Раскажыце пра жорава,—прашу я Надзею Спірыдонаўну і адсоўваю недапіты квас.

У гэты час за вокнамі падае голас Джульбарс — Паўлюкоў сабака. Ён так заліваецца, быццам толькі што наступіў на зайца. Аж заходзіцца сэрца: здаецца, што да слыху вось-вось данясецца бездапаможны, як у дзіцяці, заечы крык. Цацура куляй з хаты.

— Расказаць, кажаш?..—задумліва паўтарае Надзея Спірыдонаўна.

●

...Зазімак у тым годзе наляцеў нечакана. Не тое, каб на хутарах, дзе работы па горла, а і ў малазямельных Выганашчах, Раздзялавічах—наўкруг па вёсках яшчэ капалі бульбу, як раптам апоўдні паваліў снег—густы, ахлапісты. Ужо на змерку яго было па самыя забарсні. Увечары хворы Спірыдон паклікаў да сябе на печ дачку.

— Карову, Надзейка, не пушчай больш на пашу,—прастагнаў бацька.—Цяперся яна цельная, пашкодзіць можа. Схадзі са светам на Раздарожжа: там я копку атавы насушыў,—прынясеш у рэзгінах. Ачуняю трохі, тады сена дастанем з балота.

Назаўтра Надзейка з рэзгінамі пад пахай адправілася на Раздарожжа. Дзень быў хмарны, халодны; наўкола сінеў першы сняжок, далікатны такі з выгляду, шкода было наступаць на яго; імжэў дробненькі, ледзь прыкметны дождж ык, ад якога снег не так раставаў, як асядаў і набываў блакітнае адценне. Непадалёк ад копкі Надзейка заўважыла жорава. Ён стаяў на леташнім сцежары і спалохана зіркаў на дзяўчыну. Яго левае крыло бездапаможна звісала, сам ён ледзь чутна шыпеў і калаціўся.

— Адубееш, дурненькі, як уцякацьмеш,—прашаптала Надзейка і пайшла да сцежара.

Яна злавіла жорава і разам з сенам прынесла дамоў.

— На папраўку бог паслаў,—усцешыўся бацька, злазячы з печы.

— Ай, што вы, татко! Якая з яго папраўка — адно маслы ды пер'е.

Бацька асцярожна агледзеў жорава і сказаў:

— Твая праўда, Надзейка: маслы ды пер'е. Як будзе есці, хай сабе трохі пажыве ў нас.—Спірыдон пакратаў рукою хворае крыло і расчуліўся:—Глядзі-тка, то ж ён сам сябе лечыць—хворае крыло ў яго тлушчам змазана, а пад здаровым—сіняк. То ж ён дзюбай выціскае тлушч з-пад здаровага крыла і змазвае хворае.

Жораву падвязалі анучкай крыло і пусцілі ў другую палавіну хаты.

Недзе падвечар, абсохшы ў цяпле, жораў асмеліўся падысці да конаўкі з вадою. Напіўся. А да паранай бульбы, што стаяла побач у гаршчочку, нават не дакрануўся. Затое ўранку, калі Надзейка глянула за перагародку, жораў так увішна апаражняў гаршчочак, што дзяўчына засмяялася:

— Малайчына, лекар! Жыцьмеш, родненькі мой...

Неўзабаве жораў зусім асвойтаўся, прывык да людзей. Ён паважна, бы той бусел на поплаве, размашыста спружыніў па пакоі і прагна аплятаў усё, што б ні прыносілі яму.

Неяк перад самымі калядамі з чарговым ваяжам-паборам да лесніка завітаў лоўчы, пан Дамброўскі. Плячысты, азызлы да мотапшнасці, на




# ЗІМОВАЯ КАЗКА



гэты раз ён зусім не шуткаваў з лесніковай дачкой, а як плюхнуўся на зэдлік за перагародкай—так і прыкіпеў. «Упадабаў жорава,—ёкнула ў Надзейчыных грудзях, — забярэ скнара». А жораў, на бяду тую, быў рахманы, як ніколі: смела браў з Надзейчыных рук хлеб, бульбу, сушаныя чарніцы, нават піў малако.

— Неверагодна! Калі б пан Спірыдон...—усміхнуўся лоўчы ў вусы і зрабіў шматзначную паўзу.—Мая Ядвіся бэндзе вельмі ўдзячна...

— Проша, паночку, проша,—залепятаў ляснік.—Я меўся сам прасіць пана прыняць гэты пачастунак.

Надзейка ледзь не закрычала. Горкі камячок падкаціўся да горла, яна зарумзала б, ды здарыўся цуд. Дамброўскі падахвоціўся сам пачаставаць сваю будучую ўласнасць. Аднак жораў злосна зашыпеў і пашыбаваў у кут. Лоўчы бліжэй падсунуў да яго жменю хлеба. Тады цыбаты прыгажун моцна дзеўбануў пухленькую руку пана і грозна замахаў крыламі—як наважыўся быў узляцець яму на галаву. Дамброўскі войкнуў і, размахваючы акрываўленай рукой, вылецеў з-за перагародкі. Неўзабаве ён паехаў ад лесніка з яшчэ лепшым пачастункам: у передку панскага вазка ляжала апошняя Спірыдонава авечка.

— Не акараскаешся цяпер ад лоўчага,—увесь дзень уздыхаў ляснік.—Забярэ жорава. Давай зарэжам яго, Надзейка. Досыць яму марнець у хаце.

— Ай, што вы, татко. Колькі ў ім таго мяса! Як замінае ў хаце, я аднясу яго ў аўчарню: пустуе ж яна.

На новым месцы жораў асвойтаўся таксама. Але ж сумаваў больш, чымся на людзях. З аўчарні ўсё часцей і часцей даносілася трывожнае курлыканне і самотна-тужлівыя гукі, падобныя на далёкае журчанне плыткай жвірыстай ракі—ш-шчур-р-р, ш-шчур-р-р. Да Надзейкі ён настолькі прывязаўся, што не адставаў ані на крок: ідзе тая з аўчарні—ён следам ці ўпобачкі, нават і не падумае пужацца ці ўцякаць; возьме на рукі—сядзіць ціхмяна.

А напрадвесні—у першую ж адлігу—зусім зажурыўся. Падоўгу глядзеў у блакітнае неба і працяжна, з вялікаю скрухай у голасе шыпеў—як бы клікаў каго да сябе. Неяк раз жораў рашуча ўзмахнуў крыламі і ўзняўся над лесніковай сядзібай. «Зляціць» — падумала Надзейка і паклікала:

— Жура! Жура! Жура!

Не, не зляцеў. Пакружыўся над хатай і зноў—у аўчарню. Так было да самай вясны: палётае над сядзібай, над лесам, злётае на балота і падвечар вяртаецца на сваю кватэру.

Аднойчы раніцай над лесніковай хатай пралятаў першы касяк жураўоў. Шматгалосае курлыканне неяк пасаблівама ўсхвалявала Надзейчынага кватаранта. Упершыню ён рашуча адскочыў у бок ад сваёй гаспадыні і адгукнуўся журавам трывожным і радасным галасам—кур-р-лы, кур-р-лы. Касяк быў пачаў зніжацца над хатай лесніка, і тады жораў лёгка ўзмахнуў дужымі крыламі і паляцеў насустрач сваім цыбатым братам.

У той дзень жураўель так і не вярнуўся назад. Не прыляцеў і назаўтра. Увечары трэцяга дня Надзейка зноў чакала яго каля аўчарні. Ужо збіралася ісці ў хату, як раптам над галавой пачуўся лёгкі пошум крылаў. Жораў сеў пасярод двара, але падыходзіць блізка збаяўся.

—Жура! Жура! Жура!—паклікала яго Надзейка.

Жораў нерухома стаяў воддалек, не падыходзіў. А калі яна наважылася падысці сама, ён спалохана кінуўся наўцёк і паляцеў у бок балота.



ПРА ТЫХ, КАГО НЕ БАЧЫЦЬ ГЛЯДАЧ

# ГАСПАДАР СВЯТЛА



**Аляксандр Вянгерка, які ў 1940—1941 гадах кіраваў Дзяржаўным польскім тэатрам у нашай рэспубліцы, быў не толькі выдатным рэжысёрам, але і чулым педагогам і выхавацелем. На ўсё жыццё захаваў аб ім удзячную памяць Барыс Валасевіч, які прыйшоў працаваць у тэатр пасля заканчэння Вільнюскага электрабудаўнічага тэхнікума. Перад пачаткам рэпетыцый з акцёрамі, успамінае Барыс Іванавіч, рэжысёр запрашаў электрыкаў, краўцоў, цырульнікаў і рабочых сцэны.**

**— На мінулых занятках я пазнаёміў вас з п'есай Усевалада Вішнеўскага «Аптымістычная трагедыя», — гаварыў Вянгерка. — Зараз вы мне раскажаце, як мяркуеце выкарыстаць свае веды ў канкрэтнай рабоце над новым спектаклем. Напрыклад, вы, Барыс. Як бы вы зрабілі светлавое афармленне першай карціны!**

**І Барыс Іванавіч з энтузіязмам выкладаў свае думкі, як пры дапамозе святла перадаць неспакойную, трывожную атмасферу падзей спектакля.**

**Многаму навучыўся Б. Валасевіч і ад брата рэжысёра — інжынера-электрыка Сяргея Вянгеркі. Ён уважліва прыслухоўваўся да яго заўваг і парад. Многа шчаслівых хвілін перажыў Барыс Іванавіч, калі яго прапановы па светавым афармленні спектакляў прымаліся.**

**...Дваццаць год Барыс Валасевіч працуе загадчыкам электрацэха Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. У гэтым калектыве ён дэбютаваў у спектаклі «Нараджэнне сенатара» па п'есе Г. Ландау і Л. Сегеля. Пасля прэм'еры да ўсхваляванага Барыса Іванавіча падышоў рэжысёр Н. Стасенка і, моцна паціскаючы яму руку, сказаў:**

**— Вялікае дзякуй! Святло было цудоўнае!**

**За сваю шматгадовую тэатральную дзейнасць інжынер-электрык Б. Ва-**



Мал. А. САПЕТКІ.

*Паэтычная ПАВЕРКА*

Пілiп ПЕСТРАК



# У ЦІХІМ ГІМНЕ

Лес шуміць задумна, адзінока,
Нібы згадкай ціхаю пяе,
І глядзіць наўкол людское вока,
Нешта роднае балюча пазнае.

Раптам людзі чуюць гром далёкі,
Гром гарматны і ў нябёсах гул, —
Бачаць людзі: полымем высокім
Хаткі ўспыхнулі ў цямрычную імглу.

Ў хатках тых бацькі застольным святам
Абдымалі дзетак чараду,
Дзеткі шчабаталі: «Мама, тата,
Сёння школу нашу павядуць

Ў лес зялёны, дзе так многа птушак,
Дзе растуць прыгожыя грыбы...»
Дзеткі йшлі, каб радасці паслухаць
У лясных праменістых глыбінь.

Помніць кожны—паспявала жыта,
Сонцам расцвітаў калгасны шлях,
Цешыліся ўсе, што ўсё здабыта
Залатою дружбай на палях...

Вось так было, паляна міжлясная,
Вось так, Хатынь,—сірочыя званкі,—
Твая трывога болем далятае,
Яна ў народы пойдзе праз вякі...

А людзі йдуць, нібыта ў ціхім гімне,
І пілігрымную зямельку у руках
Нясе з іх кожны — дар святы, радзімны
Кладзецца на магільны прах.

# РАЗГОРНУТЫ Ў СЕМІДЗЕСЯТЫМ...

## НОВЫ РАДЫЁЧАСОПІС «ГАВОРАЦЬ МУЗЫКАНТЫ»

У АПОШНІ месяц мінулага года ў эфіры прагучаў першы нумар радыёчасопіса «Гавораць музыканты». Яго праграму з цікавасцю праслухалі тысячы людзей. І можна спадзявацца, што неўзабаве пазыўныя новай перадачы стануць гэтак сама жаданымі для слухачоў, як пазыўныя «Рамантыкаў», «Калыханкі», «Дня нашага жыцця» і іншых папулярных праграм Беларускага радыё.

Змест першага нумара новага часопіса быў разнастайны і цікавы. Хіба не цікава, калі музыкант дзеліцца ўражаннямі ад таго ці іншага твора, і гэты твор адразу выконвае? У першым нумары мы пачулі Эдуарда Міянсарава. Вядомы піяніст, лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага ў Маскве, ён расказаў, з чаго «пачынаўся» Сяргей Пракоф'еў — аўтар дзевяці фартэпіянных санат, мноства п'ес, стваральнік савецкай фартэпіяннай класікі. Свой расказ Міянсараў пацвердзіў яркімі музычнымі цытатамі з Пракоф'ева.

Наступная старонка часопіса была прысвечана кнізе выдатнага французскага дырыжора Шарля Мюнша «Я—дырыжор». Зараз, калі побач з прафесійнымі аркестрамі хутка павялічваецца колькасць аматарскіх музычных калектываў, моцна ўзрасла цікавасць да прафесіі дырыжора. Як ён угадвае тое, што меў на ўвазе кампазітар? Як розныя дырыжоры трактуюць адзін і той жа твор? На гэтыя і шмат якія іншыя пытанні спрабуе даць адказ у сваёй цудоўнай кнізе Ш. Мюнш.

У часопісе прагучалі яго словы: «Добра, што мы не машыны, што не можам адчуваць аднолькава. Мы можам і памыляцца. Але ведайце: калі вы выконваеце музыку так, як я адчуваю... я ўпэўнены — вас зразумеюць». І як бы ў пацвярджэнне гэтых слоў прагучала трэцяя частка скрыпічнага канцэрта Арама Хачатурана ў выкананні мексіканскага скрыпача Генрыха Шэрынга і парыжскага сімфанічнага аркестра «Калон». Дырыжыраваў П'ер Дзерво.

Рэдактар галоўнай рэдакцыі музычных перадач Беларускага радыё А. Мельнікава расказвае:

— У першым нумары новага радыёчасопіса прагучала пісьмо слухача Васіля Сцяпанава з Магілёва, які прасіў нас часцей расказваць пра музыку і музыкантаў. Штодня гэткіх пісем прыходзіць на радыё многа. Яны сведчаць пра небывалае пашырэнне музычнай аўдыторыі, пра яе духоўны рост. Імі і выклікана нараджэнне новага часопіса.

Што мы прапануем увазе слухачоў у яго наступных нумарах? Па-першае, трэба сказаць, што ў ім актыўны ўдзел прымуць беларускія кампазітары і музыказнаўцы. Слова іх будзе найчасцей за ўсё прысвечана творчасці таварышаў, з якімі яны поруч працуюць.

Мы пагартаем старонкі музычнай гісторыі Беларусі, у тым ліку і забытыя. Запросім дзеля гэтага да мікрафона выдатных этнографаў Генадзя Цітовіча, Рыгора Шырму, кампазітараў, якія чэрпаюць з народных крыніц натхненне і матывы сваёй творчасці, — Анатоля Багатырова, Пятра Падкавырава, Генрыха Вагнера, Яўгена Глебава, Кіма Цесакова і іншых. Пастараемся аднавіць класічныя спектаклі беларускай labeled опернай сцэны. Мабыць, будуць і такія старонкі ў часопісе, як «Паэт і песня». А якое багацце — камерная музыка беларускіх кампазітараў!

Новыя кнігі, прысвечаныя музычнаму мастацтву, прэм'еры музычных тэатраў таксама будуць знаходзіць сабе месца на старонках часопіса.

Падрабязна ж кола нашых пытанняў нават цяжка вызначыць — тэмы будуць падказвацца жыццём.

Мне прыемна ўдзельнічаць у падрыхтоўцы перадачы. Але гэта і вельмі клапатлівая справа. Так, у апошні тыдзень семідзесятага года мы стараліся запісаць выступленне Рудольфа Баршая і выкананне некаторых нумароў з 14-й сімфоніі Шастаковіча Камерным аркестрам Беларускай філармоніі пад кіраўніцтвам Юрыя Цырука. А гэта — тэлефонныя званкі, перагаворы з аўтарамі і выканаўцамі, вызначэнне хронаметражу і г. д. Не ведаю, ці атрымаецца як задумана. Але «кухня» застанецца па-за мікрафонам. У эфіры ж усё будзе гучаць, як належыць: будзе сапраўдная музыка і змястоўная гаворка!

Словам, першы нумар часопіса абудзіў у нас крылатыя мары...

Ад імя мільёнаў радыёслухачоў мы жадаем музычнай рэдакцыі нашага радыё, каб гэтыя мары ў 1971 годзе здзейсніліся.

Ірына БУР'ЯН.

У СВОЙ ЧАС амаль усе яны працавалі ў розных эстрадных калектывах Беларускай філармоніі. Лічыліся неблагімі музыкантамі-акампаніятарамі. І нарадзіўся ансамбль «Песняры» (спачатку яны называлі сябе «Лявонамі»). Манера музычнага выканання, прынятая калектывам, па сутнасці, у многім запазычана ў вядомых творчых калектываў нашай краіны і ў замежных эстрадных артыстаў. Дастаткова ўспомніць канцэртныя выступленні ленінградскіх «Пявучых гітар» або некаторых польскіх электрагітарных ансамбляў (далёка не ўсе яны вартыя пераймання), дзе спалучаюцца вакал і інструментальны ансамбль. У практыцы нашай філармоніі такая форма эстраднага «музіцыравання» скарыстоўваецца ўпершыню, і адносіны да яе адразу складаліся добразычлівыя.

Прымаючы ўдзел у двух турах Усесаюзнага конкурсу, які адбыўся гэтай восенню ў Маскве, «Песняры» заваявалі высокую ацэнку аўтарытэтных журы. Калі ўлічыць, што па вакальным жанры першай прэміяй увогуле ніхто не адзначаны, то наш калектыў з другой прэміяй і званнем лаўрэата фактычна стаў пераможцам эстраднага спаборніцтва.

У чым жа сакрэт поспеху маладога калектыву? Чаму за даволі кароткі час ён набыў папулярнасць?

Прыгадваецца выказванне выдатнай французскай спявачкі Эдзіт Піаф: «Вы думаеце, цяжка знайсці маладых людзей, якія ўмеюць няблага спяваць? Іх тысячы. Але дайце мне індывідуальнасць!». І сапраўды — колькі ў апошні час з'явілася на нашай прафесіянальнай і аматарскай сцэне розных электрагітарных ансамбляў, кожны з якіх імкнецца не толькі іграць, але і спяваць пад свой акампанемент. У большасці гэтыя выканаўцы быццам няблага спраўляюцца са сваімі «абавязкамі», карыстаюцца поспехам у публікі. А давайце прыкінем: ці многа сярод іх «індывідуальнасцей», сапраўдных мастакоў, здольных адкрываць людзям нешта новае ва ўспрыняцці свету і сучаснай рэчаіснасці. Думаю, такі падлік нічога суцяшальнага не дасць. «Блізнят» на эстрадзе мнагавата...

Кіраўнік «Песняроў» Ул. Мулявін, ствараючы свой ансамбль, не стаў арыентавацца на вядомыя эстрадныя стандарты, капіраваць гатовыя ўзоры. Ён паставіў высакародную мэту — зрабіць самабытны, сапраўды нацыянальны калектыў, здольны самастойна працаваць у мастацтве і вырашаць складаныя творчыя задачы. Перш-наперш гэта праявілася ў выбары рэпертуару. Тое, што асновай для яго паслужылі галоўным чынам класічныя ўзоры беларускага музычнага фальклору і творы беларускіх савецкіх аўтараў у апрацоўцы і пералажэнні для эстрады Ул. Мулявіна,— факт сам па сабе вельмі прыкметны і радасны.

Хачу зазначыць, што ўжо не першы год у нашай рэспубліцы вядуцца бясконцыя спрэчкі аб правамернасці выкарыстання народна-песеннага матэрыялу ў творах для эстрады, аб выпрацоўцы ёю нацыянальных рысаў і асаблівасцей. На гэтую тэму нямала гаварылася таксама на пленуме Саюза кампазітараў БССР, прысвечаным пытанням развіцця эстраднай музыкі. Аднак і сёння гэтая праблема застаецца на парадку дня і хвалюе музычную грамадскасць. Не выпадкова ўключэнне «Песнярамі» ў свой рэпертуар эстрадных апрацовак такіх народных песень, як «Ой, рана на Івана», «Рэчанька», «Чаму ж нам не пець», «Із далёкіх із краёў», і іншых выклікала самыя супярэчлівыя водгукі і меркаванні спецыялістаў і слухачоў. Адны ўвогуле пратэстуюць супраць эстраднай апрацоўкі ўзораў народна-песеннай творчасці. Ёсць меламаны і знаўцы, якія гатовы ўсяляк падтрымаць тых, хто прапагандуе народную музыку на эстрадзе,

Святлана КЛІМКОВІЧ

# АСКОЛАЧАК З НЕБА

ЭЦЮД

# У КАДРЫ І ЗА КАДРАМ

Георгій ВЫЛЧАЎ

*ПІСЬМО З САФІІ*

НЯДАЎНА ў Сафіі ішоў фільм «Я, Францыск Скарына» вытворчасці «Беларусьфільм». Прагледзеў я гэтую новую беларускую мастацкую стужку, прачытаў ласкавыя водгукі пра яе ў нашым друку і раптам мне закарцела пацікавіцца гісторыяй «пранікнення беларускага кіно да нас, у Балгарыю. У «Дырэкцыі распаўсюджвання фільмаў» мне паказалі друкаваныя каталогі ўсіх замежных фільмаў, якія паказваліся ў нас пасля 1944 года. Пачаў я перагортваць іх і ўжо з пяцідзесятых гадоў стаў усё часцей сустракаць пад назвамі карцін паметку — «Беларусьфільм».

Запэўняю, каб хто спецыяльна ўзяўся і напісаў даследаванне пра тое, як распаўсюджваецца за мяжой прадукцыя беларускіх кінематаграфістаў, то ў Балгарыі ён знайшоў бы шмат радасных фактаў. Як успрымаліся ў нашай рэспубліцы вашы фільмы, пісалі літаральна ўсе газеты, пісалі ўсхвалявана і захоплена. Для прыкладу ўспомню, што ў свой час у нас вельмі шырока дэманстраваліся «Паўлінка», «Чырвонае лісце», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада» і многія іншыя. Ніводзін з гэтых фільмаў не быў абыдзены ўвагай прэсы.

З песні слова не выкінеш: сёння вашы карціны да нас трапляюць значна часцей, чым дзеячы кінамастацтва. Малавата яшчэ ўзаемных візітаў, дзелавых і творчых сустрэч. У час свайго апошняга прыезду ў Беларусь я заходзіў на кінастудыю. Вашы таварышы наперадавалі тады праз мяне многа сардэчных прывітанняў балгарскім кінематаграфістам, нават уручылі запісачку, каму менавіта перадаць прывітанні. І здарылася так, што тую памятку я згубіў. Каму перадаваць прывітанне? Разгубіўся проста... Пачаў дапытвацца ў сваіх таварышаў з нашай студыі, хто быў у Беларусі, і мне назвалі нямала імёнаў. Тады я рашыў пабачыцца хоць бы з тымі, хто быў у маі на IV Усесаюзным кінафестывалі савецкіх фільмаў у Мінску. У іх уражанні павінны быць больш свежыя.

Кіраўніком нашай дэлегацыі на гэтым фестывалі быў намеснік старшыні Саюза балгарскіх кінематаграфістаў Іван Іваноў. Яго першага я і наведаў для гутаркі. Іваноў нават крыху разгубіўся: былі яны ў Мінску і ў Беларусі ўсяго тры дні, многа ўражанняў за гэты час не набярэш. Але расказаў, што былі на кінастудыі «Беларусьфільм», знаёміліся з яе вытворчымі магутнасцямі, матэрыяльнай базай. Студыя зрабіла някепскае ўражанне, спадабаліся творчыя работнікі яе. З «Беларусьфільмам» можна падтрымліваць дзелавыя кантакты, можна рабіць сумесныя фільмы.

Тады я адразу папытаў Іванова, можа ёсць што сказаць больш канкрэтнае ў гэтым сэнсе. На жаль, не. Кааператыўнай прадукцыі пакуль што няма. Мабыць, таму, што і беларускія, і нашы кінематаграфісты вельмі загружаны сваёй работай. «Вы не бачылі беларускую дакументальную стужку пра былога старшыню калгаса «Рассвет» Кірыла Арлоўскага? — спытаў мяне І. Іваноў. — О, мы купілі гэты фільм, абавязкова паглядзіце. Работа аператара проста здзіўляе і ўражвае. На высокім творчым узроўні зроблена стужка. Уяві сабе, ствараецца такое ўражанне, быццам аператары здымалі Арлоўскага ледзь не кожны дзень, у клопатах, напружаных буднях, а потым выбралі самыя значныя дэталі і факты. А за многа гадоў іх накапілася нямала. Атрымаўся фільм-дакумент, а глядзіш яго, дык уражанне застаецца большае, чым ад мастацкага».

Актрыса Жаржэта Чакарава была ў балгарскай дэлегацыі. Адзіная актрыса з зарубежных дэлегацый на фестывалі і першая балгарская актрыса, якая наведала Беларусь. У нас яна зараз у зеніце сваёй славы і росквіце таленту. Дэбютавала яна ў фільме «Хроніка пачуццяў» і адразу атрымала прыз за лепшую жаночую ролю. З таго часу знялася яна ў шасці мастацкіх фільмах, больш чым у дзесяці тэлевізійных. Найбольш папулярным быў «Чалавек з Ламанча» («Дон-Кіхот»), дзе яна выконвала ролю Дульцынеі. А так у асноўным яна драматычная актрыса, працавала ў тэатры сатыры, а зараз перайшла ў Нацыянальны.

Мы дамовіліся з ёю сустрэцца ў кафэ. Я перажываў, ці прыйдзе яна. На вуліцы лупцаваў дождж, і я ведаў, як занята Жаржэта.

— Зоркі сыходзяць на зямлю, — пажартаваў я, калі ўбачыў яе ў дзвярах. Прыйшла ўсё-такі!

— Я ж выйшла з народа і ніколі ад народа не адрывалася, — гаворыць яна. — Чым больш сустракаешся з людзьмі, тым больш уражанні ад гэтых сустрэч дапамагаюць у творчай рабоце. Ці вы думаеце інакш? Да таго ж мне так хацелася яшчэ раз успомніць пра Беларусь, падзяліцца ўражаннямі аб гэтай дзіўнай зямлі і яе людзях...

Я заказаў каву — ёй вельмі салодкую, турэцкую, сабе — горкую, амаль без цукру. За кавай я і слухаў яе...

— Ведаеце, для мяне гэтая краіна — проста адкрыццё. Ехала я ў



Сярод тых, хто віншуе сёння з Новым годам наведвальнікаў кафэ «Свіцязянка» ў Навагрудку — і афіцыянтка Галіна Еўчар. Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

## ЛІТАРАТУРНЫ ПОМНІК ГРОЗНЫХ ДЗЁН

У цэнтры калгаса імя Данукалава, што на Віцебшчыне, узвышаецца прыгожы будынак клуба. Тут заўсёды шматлюдна. Месца гэта, можна сказаць, гістарычнае. У 1942-м тут размяшчаўся штаб легендарнай партызанскай брыгады Аляксея Фёдаравіча Данукалава.

Аб баявых справах і гераізме народных мсціўцаў можна даведацца з літаратуры, якой багата сабрана ў клубнай бібліятэцы. На асобных стэлажах кнігі з аўтографамі партызан-данукалаўцаў.

Цікавая гісторыя ўзнікнення бібліятэкі. Тры гады назад трыццаць былых партызан-данукалаўцаў, якія жывуць у розных кутках рэспублікі, наведалі вёску Кавалі. Сустрэліся з калгаснікамі, вучнямі, падзяліліся ўспамінамі. І тады хтосьці з іх выказаў думку стварыць літаратурны помнік грозных дзён. Праз некаторы час у адрас клуба пачалі паступаць кнігі з аўтографамі, фатаграфіі.

Цяпер іх у бібліятэцы каля паўтысячы.

Праўленне калгаса штогод асігнуе неабходныя сродкі на папаўненне кніжнага фонду. Летам бібліятэку-помнік наведваюць школьнікі з усяго раёна.

П. КАБАК.

Лёзненскі раён.

## «ПАСЫЛКА» З КАНСЕРВАТОРЫІ

Гэтай восенню на Піншчыне гасцявала група выкладчыкаў і студэнтаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Госці з Мінска цікавіліся музычным фальклорам палескага краю. Кіраўніку групы — рэктару кансерваторыі кампазітару У. Алоўнікаву вельмі спадабаліся спевакі харавой капэлы калгаса «Дружба народаў». У ёй удзельнічаюць галоўным чынам ветэраны калгаснай вытворчасці. Кампазітар правёў з хорам некалькі рэпетыцый, узбагаціў яго рэпертуар новымі творамі.

Цяпер кансерваторыя ўзяла шэфства над самадзейнымі артыстамі калгаса. Нядаўна ў адрас гаспадаркі прыйшла «пасылка» — піяніна. Гэта падарунак калектыву кансерваторыі сваім падшэфным. Сталічныя музыканты будуць дапамагаць не толькі мастацкай самадзейнасці, але і калгаснай музычнай школе, якую мяркуецца адкрыць неўзабаве.

Ф. ГЛІНСКІ.




*ШВЕДСКІЯ МАЛЮНКІ*

### З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ

Па дарозе з Масквы да Стакгольма вы паспяваеце прагледзець толькі некалькі газет і справіцца са смажаным куранём, якое прапануе на снеданне Аэрафлот. Пакуль ваша ўвага занята нажом, відэльцам і куранём, якое танцуе па талерцы (відэльцамі, канечне, яго есці не прынята, а рукамі прынята, але нязручна), у вас няма ніякай цікавасці да аднастайнай белай воблачнай раўніны за ілюмінатарам. Але калі з куранём пакончана і вы аддаеце сцюардэсе пластмасавы падносік з тоненькімі костачкамі, ваш позірк выпадкова спыняецца на ілюмінатары. І вы радасна заўважаеце, што ў воблачнай коўдры з'явіліся дзіркі, праз якія нешта сінее, падобнае на мора. Гэтая сінеча ўсыпана цёмнымі плямамі. Мусіць, маленькія астраўкі, — думаеце вы. Плям усё больш і больш. Мабыць, гэта бераг Швецыі? І праўда — успыхвае табло: не курыць, прывязаць рамяні.

У ілюмінатары зноў перамена. Цёмныя плямы зліліся, запоўнілі ўсю прастору, і цяпер морам здаецца гэта цёмнае, а астравамі на ім выглядаюць светлыя азёры. Азёраў гэтак жа многа, як раней астравоў. А цёмнае — лясы. Хутка з'яўляюцца прыціснутыя да вады кучкі маленькіх домікаў, квадраты палёў. Вёскі, пасёлкі. Вострыя шпілі чырвоных сельскіх цэркавак. І зноў азёры...

Калі-небудзь турыстычныя фірмы з дапамогай спецыяльных паветраных аўтобусаў будуць наладжваць экскурсіі ў розныя куткі свету. Хочаце, паглядзіце зверху Галандыю, хочаце — Сахару або Каўказ. Тут вам не толькі прыгожае відовішча, але і непаўторнае адчуванне. Унізе невядомая зямля, якую вы раней ніколі не бачылі. Яна адначасова рэальная і нерэальная. Хочацца ўбачыць яе бліжэй, разгледзець дэталі, але гэта немагчыма. Застаецца толькі здагадвацца, якая яна там, зблізку.

А вы ўсё ляціце над лясамі і азёрамі. Зусім як маленькі Нільс з вясёлай кніжкі Сэльмы Лагерлеф «Цудоўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі». Ён жа таксама ляцеў у гэтым кірунку — з поўдня на поўнач Швецыі і гэтак жа пад ім праплывалі асеннія лясы і дахі маленькіх домікаў. Праўда, гэта было даўно, і ён падарожнічаў на гусі.

Чым ніжэй апускаецца самалёт, чым бліжэй Стакгольм, тым больш прыкметна ўварванне ў прыродны пейзаж лінейкі і цыркуля сучаснага планіроўшчыка, архітэктара, інжынера. Ва ўсе бакі смела бягуць па зямлі шырокія стужкі асфальту. Нібы перанесеныя з архітэктурнай майстэрні макеты ў строгім парадку стаяць сярод лясоў новыя жылыя масівы. Белыя стандартныя паралелепіпеды будынкаў рэдка выстройваюцца па прамой лініі або радамі, адзін за адным. Часцей яны ідуць дугою...

Самалёт ідзе на пасадку. Мільгаюць залаціста-бурыя вершаліны дрэў, кусты, нейкія будынкі, і колы коцяцца па бетоне пасадачнай дарожкі.

### ХАНС, ЭСТЭ І МЫ

Ханс — зграбны, сімпатычны хлопец з вельмі заможнай сям'і. Ён — студэнт III курса Стакгольмскага эканамічнага інстытута. Нядрэнна гаворыць па-руску, хоць і з вялікім акцэнтам. Ханс чатыры разы быў у Савецкім Саюзе са шведскімі турыстамі, паўгода ўдасканальваўся ў рускай мове на курсах у Піцундзе. Ён добра выхаваны, акуратны, уважлівы. Але фасоністы і крышку какетлівы. Затое яго тата — чалавек практычны і ваbooлівы. Мяркуючы па ўсім, Ханс не будзе ёлупам, як некаторыя, а зробіць добрую кар'еру — будзе гандлёвым прадстаўніком у якой-небудзь краіне, па ўсім відаць — у СССР.



Ханс прадстаўляе шведскую турыстычную фірму «Рэсо». Ён — наш перакладчык і гід і будзе суправаджаць нас ва ўсіх паездках, начаваць у адных з намі гасцініцах (нават у Стакгольме, дзе жывуць яго тата, мама, сёстры і ён сам), снедаць, абедаць і вячэраць у тых жа рэстаранах, што і мы.

Эстэ — старэйшы. Яму пад трыццаць. У яго прыгожы, дагледжаны твар «сапраўднага мужчыны». Ён рослы, з добрай ваеннай выпраўкай. Эстэ таксама вельмі дысцыплінаваны і карэктны. Па-руску ён не гаворыць і наогул маўклівы. Яго абавязак — не гаварыць, а вадзіць аўтобус. Ён таксама прадстаўляе фірму «Рэсо», якая даверыла яму доўгі, як пасажырскі вагон, ззяючы турыстычны аўтобус. Эстэ выконвае свае абавязкі ўпэўнена, свабодна, без ніякіх эмоцый. Кожную раніцу ў строга вызначаны час ён заходзіць у аўтобус, здымае і акуратна вешае сваю куртку і садзіцца за руль. У любое надвор'е ён сядзіць за рулём у белай сарочцы і гальштуку.

Эстэ — халасцяк. Недзе ў новым раёне Стакгольма ён здымае пакой. Дома ў яго сабака, якога на час па-

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАРОДЫІ

Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ.

## ВОКНЫ ДАГАРЫ

*Міхась ВЫШЫНСКІ*

ЗДАРЫЛАСЯ незвычайнае — студэнт Алесь Конаўка забалдзеў з першае ж паўлітэркі.

«Старасць, мусіць дваццаць адзін хутка, — з жахам думаў Конаўка, распачынаючы другую бутэльку. — Раней, калі маладым быў, пляшкі з чатыры «сталічнай» абернеш, ды наверх яшчэ гляк старадарожскай адмысловай — анігусенькі, ні ў адным воку! Ах, Алесе, Алесе, старэеш, брат! А колькі яшчэ не прачытана і не пакаштавана! У Глуску, кажуць, таксама марачную гоняць — смакаценне! А пісьменнікаў цудоўных колькі! Хэмінгуэй, Стральцоў, Фітцжэральд!»

Апоўначы Конаўку пацягнула на вуліцу. Недзе ў пякельных звілінах мозгу зыбалася таўсматая думка аб тым, што там ён стрэне яе. сваё каханне; Доню ці Дуню — Конаўка дакладна не памятаў, бо і Дуня і каханне былі страшэнна даўно, на зары туманнага юнацтва — дзён як пятнаццаць назад, не менш.

Хапатліва дыхаючы, Конаўка, — спакойны, свежы і лёгкі—адно не бег па спусцелых вуліцах, здзіўляючыся сабе, што мкнецца некуды ў вірлівую пустэчу плошчаў замест таго, каб за бутэлькай кальвадоса («Волжское» за рубель дзве капейкі) разважаць аб сірочым лёсе герояў Рэмарка ці са з'едлівай асалодай учытвацца ў хрэстаматыйныя радкі А. Бялевіча.

— Стары, ты чытаў «Вялікага Гэтсбі»? — узрушана звярнуўся ён да паставога. Міліцыянер пацягнуўся за свістком, і Конаўка зразумеў, што таго не правядзеш на замежных дэтэктывах.

Конаўка наўздагад брыў па гарадскіх вуліцах, і не заўважыў, як дадыбаў да вясковае хаты роднае цёткі Алімпы.

«Во і Алімп ужо, — адзначыў сам сабе Конаўка. які даўно развучыўся здзіўляцца. — Але што так хутка?.. Ага! Во яно што—вокны дагары! Дагары вокны!»

Вокны цётчынай хаты тужліва рыпелі, азораныя няроўным святлом неона. Да драбніц знаёмая карова Зорка пяшчотна лізала шурпатым языком рознакаляровую квадру светавой рэкламы «Піце малако толькі кіпячонае!»

«Вокны дагары... Які непараўнальны сюжэт... Во і напісаць так, пакуль хто не перабіў, га?!» —думаў Конаўка, правальваючыся раптам у цёмную бездань.

...Ачуняўшы, Конаўка адчуў сябе на панцырнай сетцы інтэрнацкага ложка. Наўкол мірна храплі хлопцы, вырашыўшы, што каналы на Марсе — глупства. Конаўка, адчуўшы сябе гарачай жылкай зямлі, пацягнуўся да алоўка.

— Пісаць! — нудліва ныла ў каленках.

— Пісаць! — свярбела пад пахай.

— Пісаць! — енчыла ў горле.

За вокнамі займалася зара, чысцюткая і моцная, як пляшка глускай...

## НАВАГОДНІЯ КАЛІЗІІ

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.



— Старшынаў?.. Рагулін?.. Фірсаў?..






Эдуард СКОБЕЛЕЎ

## ФРАЗЫ

*Мастацтва не прызнае работы па сумяшчальніцтву.*

□

*У пахмурнае надвор'е ў рэкамендацыях мае патрэбу нават сонца.*

□

*І задняя думкі бываюць перадавымі.*

□

*Не ўсякая прамова з трыбуны — прамова трыбуна.*

□

*Усе ісціны існуюць да свайго адкрыцця.*

□

*Даражэй за ўсё каштуюць нам непатрэбныя рэчы.*

□

*Каханне — гэта ісціна. Не здзіўляйцеся, калі яна даступна некаторым з першага погляду.*

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

У чарвяка быў радыкуліт.

□

Так спяшаўся за славай, што ў спешцы абагнаў яе.

□

Лесніку казалі: не дасі бярозы, дык дасі дуба.

□

Дай мышы ўладу, і яна перастане баяцца ката.

□

Ён так настаяўся за прылаўкам, што папрасілі пасядзець.

□

У крытыка было крытычнае становішча: усіх перакрытыкаваў.

Васіль ЗУЁНАК

## КАМАРОЎКА

*ОДА НА ПАРОДЫЮ*

**МЭТА**

Ба-
зар
Камароўка,
Нібы дойная кароўка:
І паэт праслаўляў,
І сатырык абсмяяў,
І ля бочак драматург
Прыглядаўся да натур.
Што казаць—нават проза
Адгукнулася цвяроза...
Запазніўся я па часе,
Але рыфмаў назапасіў.
Толькі збыць куды іх мне
Ды па сходнай каб цане!..
Стаў я думаць і гадаць...
Ці не дзецям іх аддаць!!

**ТЭМА**

Першакласнік Волкаў Воўка,
За цябе мне, брат, нялоўка:
Ты ж выдатнік, Воўка Волкаў,
А гаворыш «Камалоўка...»
Толькі гэта не бяда.
На базар са мной гайда:
Там цябе—захачу—
Не такому навучу!
Уваход на Камароўку.
Тут—для пуза трэніроўка:
Прадаюцца піражкі...
Гэта ўрок не цяжкі.
А вось тут—газіроўка.
Знае цётка Камароўка:
Не дасі залішне газу—
Будзеш цвёрдую мець базу:
Вадахлёбаў не разуеш—
І на «Волзе» загазуеш.
Прадаўцы—страйней алоўкаў.
Тут Каўказ—не Камароўка.
Падарункі для дзяцей—
Ад паўднёвых гасцей:
З кулачок гранат—
Жменя грошай акурат!..
...Ці ж гранаты вінаваты,
Што каўказец скупаваты!..
Побач—слава Камароўкі—
Мыйдадзіравы сяброўкі:
Белагрывыя мачалкі
Леглі ў рад, нібы качалкі.
Без начальства—
за рубель—
Шыю ўраз натруць табе.
А далей Камароўку
Хоць бяры на буксіроўку,
Бо не цягне ўжо сама,
Аддае задарма —
Бульбу, моркву, агуркі,
Масла, сыр і кумпякі...
Ну, а вось—«Сельгаспрадукты».
Ёсць у краме гэтай «фрукты»:
«Белавежская», «Зуброўка»...
За вуглом якраз—сталоўка...
Тут шыкуе Камароўка,
Выпівае барыша...
Ды пра гэта, хлопцы,—ша.
«Хай між намі, —
просіць Воўка,—
Ані слова не пішы.
Каб не зналі малышы».

**ЗАКЛЮЧЭННЕ**

Дзеткі, верш—не вяроўка:
Нельга віць без канца.
Падвучылі хлапца,—
Будзь здарова, Камароўка!

Лявон КУДЛА

## ЗАЙЗДРОСНАЯ ШЧЫРАСЦЬ

Марозны сонечны дзень. Па двары з бабкай гуляе двухгадовы Андрэйка. Пуцкатыя шчочкі яго расчырванеліся. Да хлопчыка падыходзіць сусед—вядомы крытык.

— О, які ты ўжо вялікі. Мгу. Расце змена, расце. А ці ведаеш ты, дзе ў цябе... ну, правая ручка.

Андрэйка важна здымае пуховую рукавічку і паказвае ручку.

— О, ведаеш...

Бабка хуценька надзявае хлопчыку рукавічку. Мароз жа...

— А левая дзе?—далей пытае няўрымслівы крытык.

Андрэйка сцягвае рукавічку з левай.

— О, і левую ведаеш...

Бабка завіхаецца ля ўнука, спяшаецца хутчэй абараніць ручку ад мароза і просіць суседа:

— Не пытайце, барані божа, дзе яго левая ножка, бо пачне здымаць валёнкі...

— Зайздросная шчырасць,—смяецца крытык.—Мгу. Расце змена.

## НАВАГОДНІЯ КАЛІЗІІ

Мал. А. ЗАЎЯЛАВА.



— Я пайду са Снягуркай!
— Не, я!..



Блізарукі браканьер.

## УСМЕШКІ МЕЛЬПАМЕНЫ

*Перад выхадам на сцэну ў яго пачыналася мутацыя.*

□

*У тэатры паставілі «Гамлета», таму што быў акцёр на ролю другога магільшчыка.*

□

*У тэатры самая важная фігура — касір. Ён усім гаварыў: — Я вас кармлю.*

□

*— Што гэта ты выглядаеш такім дурнем?*
*— А я яшчэ не загрыміраваўся.*

Сабраў П. ФІЛІПАЎ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63856. АТ 21300

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.